



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

9 ліпеня 2021 года №28 (1367)

18+


## Пра «стукнутых» паэтаў, два дні нараджэння, каханне, творчасць і Крэва



Пагутарылі з Уладзімірам Някляевым з нагоды 75-годдзя

старонкі 18-19

Фота russianpoetry.ru.

**«Замест падушкі – туфлі ці рулон туалетнай паперы».** Як адбываюць суткі

старонка 20



## У Будславе прайшоў фэст

старонка 5

## Адкуль у Кангрэсе ЗША подпісы першакласнікаў Вілейшчыны 1926 года

старонка 17


ISSN 1991–7155


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# Што робіць алкаголь: чалавек пайшоў на трап зоркалёта і выпаў з пятага паверха

**Пра тое, чаму алкаголь застаецца надзвычай сур'ёзнай праблемай і як з ёй спраўляцца, мы паразмаўлялі з загадчыкам Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандрам Бажко. Галоўны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечаншчыны працуе на сваёй пасадзе да жніўня.**

### Чаму гэта сур'ёзная праблема

Тое, што пераважная колькасць людзей дапускае алкагольныя напоі, гэта факт. І гэта нармальна. Тое, што людзі паміраюць і пакуль не навучыліся жыць вечна – таксама бясспрэчна. Прычыны натуральнай смерці розныя, аднак існуюць выпадкі гібелі ад знешніх прычын. Сярод іх значнае месца займаюць выпадковыя смяротныя атручэнні алкаголем. У Маладзечанскім раёне смерці ад передазіроўкі алкаголем перавышаюць па колькасці смяротнасць ад самагубстваў.

Выпадкаў перадазіроўкі алкаголю за 2020 год зарэгістравана 28, а самагубстваў 24. Сёлета за шэсць месяцаў загінула 17 чалавек ад выпадковых смяротных атручэнняў алкаголем і 10 чалавек ад самагубстваў.

На маю думку, смерць ад перадазіроўкі алкаголем – дзікунства. Чалавек піў-піў і ўпіўся да смерці.

Мы як спецыялісты сферы аховы псіхічнага здароўя ўносім вялікі ўклад у прафілактыку злоўжыванняў алкаголем. У гэтым годзе я наведаў 11 прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу, 6 буйных прадпрыемстваў горада. На сустрэчах з работнікамі расказваў пра наступствы злоўжывання алкаголем, рызыкі развіцця залежнасці і небяспеку смяротнага зыходу. Пра магчымасці атрымання спецыялізаванай медыцынскай дапамогі. А таксама пра ўмовы бяспечнага спажывання алкаголю і дапушчальныя дозы.

### Што такое залежнасць?

Калі чалавек мае патрэбу ў пастаянным ужыванні рэчыва або выкананні якой-небудзь дзейнасці, і калі гэта спыніць, то стане дрэнна або ўвогуле немагчыма трываць.

Залежны ад алкаголю, ужыўшы напой, працягне ўжываць і далей. Аднадзённая пятнічная вечарынка перарасце ў алка-выхадныя. Чарачка «за кампанію» або правакацыя «ты што, кадзіраваны» перарасце ў запой, трохдзённы або трохмесячны. Чалавек гэтага не планаваў, але так атрымалася.

### Што ў алкаголі самае небяспечнае?

Страта кантролю. Спачатку над дозай, якасцю, сітуацыяй, а потым страта рэальнасці. Спачатку чалавек выпівае разам з іншымі. Затым выпівае на працы, п'яным кіруе аўто, перап'е і прапусціць сямейнае свята, загуле і забудзецца пра абяцанае мерапрыемства дзіцяці. На нейкім этапе кантроль можна страціць і распусціць рукі: гвалт над блізкімі, бойка ў бары, аварыя ў п'яным выглядзе.

Страта кантролю над рэальнасцю бывае і прыкметай псіхозу – вострага небяспечнага псіхічнага расстройства. Выпадак з практыкі: супрацоўнікі міліцыі дастаўляюць мужчыну сярэдніх гадоў з аўтобуснага прыпынку, суправаджае і брыгада хуткай дапамогі. Знешне акуратны, крыху мітусіцца, трымаецца напружана. Пры сабе спартыўная сумка.

Аказваецца, на прыпынку паказваў шоу трэніраваных цыркавых чарапашак. Ахвотна адкрывае спартыўную сумку і дэманструе чарапашак. Паказвае з іх удзелам нумары, эмацыйна ўспрымае іх цяжкасці пры выкананні трукаў, актыўна тлумачыць супрацоўнікам міліцыі і медыкам, што гэта менавіта ён іх навучаў.

Усё б і нічога, але чарапашак не бачыць ніхто з прысутных, акрамя яго. Спачатку ўнавакольных усмешкі і смех, але гэта злуе гаспадара чарапашак, і ён становіцца агрэсіўным, пагражае. Страта рэальнасці як вынік спынення дзесяцідзённага запою прывялі мужчыну ў псіхіятрычную клініку, дзе пасля купіравання вострага псіхозу з галюцынацыямі прапануюць лячэнне ад алкагольнай залежнасці.




Фота Настассі ЎТКІНАЙ.

**11 ліпеня – Дзень прафілактыкі алкагалізму. Як спраўляцца з гэтай залежнасцю, расказаў галоўны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна Аляксандр Бажко.**

Своечасова аказаная наркалагічная дапамога дазваляе захаваць здароўе і жыццё. Але далёка не заўсёды. Прыклад з практыкі. Аглядаю мужчыну ў аддзяленні рэанімацыі. Гутарыць ахвотна, гаворыць хутка, спрабуе падрабязна расказаць падрабязнасці таго, што адбылося. Гісторыя пачынаецца з трохтыднёвага святкавання. Затым фінансавыя цяжкасці, перастаў піць.

На трэці дзень вымушанай цвярозасці, даکладней ночы, з'явіліся іншапланецяне. Яны сказалі мужчыну, што даўно назіралі і выбралі менавіта яго. Што ён страчаны чалавек, співаецца, крыўдзіў сям'ю і яе страціў, не мае сапраўдных сяброў і даўно беспрацоўны. Гэта сумневаў у пацыента не выклікала. Прышэльцы патлумачылі, што гатовы вывучыць яго арганізм, разабраць на элементы і ў лабараторных умовах стварыць лекі ад СНІДу. Ідэя паслужыць чалавецтву ўсцешыла, і мой падапечны падзіўся ўдзельнічаць у эксперыменце коштам у жыццё. Смела пайшоў у адчыненае акно і ступіў на трап, каб прайсці ў зоркалёт. У рэальнасці ён выпаў з пятага паверха. Цудам застаўся жывы, але нават у рэанімацыі хваляваўся, што іншапланецяне паляцяць і не створаць лекі.

Кантроль рэальнасці і бяспека ўзаемазвязаныя. Таму хочацца перафразіраваць вядомы выраз і сказаць: «Не так страшны алкаголь, як яго адмена».

### Як быць, калі ў сям'і алкаголік?

Адназначнага адказу няма. У ідэале на сустрэчу з доктарам-нарколагам павінны прыйсці як залежны, так і блізкі член сям'і. Толькі разам можна выбудоўваць адэкватную стратэгію па кантролі за прыёмам алкаголю.

Бываюць кур'ёзы. Пажылы бацька тэлефануе і просіць удакладніць, ці сапраўды доктар сказаў піць чырвонае віно па 0,7 літра ў дзень замест кадзіроўкі. Так адзін пацыент пасля кансультацыі пераканаў бацьку, просячы грошай на віно, – тлумачыў новымі метадамі лячэння прагрэсіўнага доктара-нарколага.

Пры сумесным візіце залежнага і сваяка план лячэння даводзіцца ўсім: дэтаксікацыя са спыненнем спажывання алкаголю, медыкаментознае лячэнне для падтрымання, стварэнне ўмоў прымусовай цвярозасці, рэабілітацыя, праца ў групе падтрымкі «Ананімныя алкаголікі».

### Ці праўда, што вам не працягваюць кантракт

Усё ідзе да таго, што 1 жніўня я стану беспрацоўным. Гэта не трагедыя. Шмат хто праходзіць праз гэты шлях. У мяне ёсць упэўненасць, што да службы занятасці не дайду. Дактары маёй спецыяльнасці ў вялікім дэфіцыце і вакансіі ў асартыменце. Як кіраўнік я прыкладаў шмат намаганняў для пошуку новых дактароў і спрабаваў зацікавіць працай у Маладзечне. Наша слабае звяно – немагчымасць даць жыллё і абмежаваныя рэсурсы для фарміравання заработнай платы. Вытрымаць канкурэнцыю Мінска з яго магчымасцямі па кадравым пытанні цяжка.

Я атрымліваю вялікую падтрымку. Тэлефануюць сябры, пацыенты, калегі. Найбольш запомнілася фраза: «Усё будзе добра. Пятровіч, толькі не бухай!». У тэму сённяшняй гутаркі. У нас так у культуры нібыта заведзена: стрэс здымаюць алкаголем. Але алкаголь нічога не вырашае і не змяняе.

Мне ўжо паступіла каля пяці рэальных прапаноў па далейшым працаўладкаванні. Самая цікавая – ад маскоўскай прыватнай клінікі. Але я патрыёт. У прафесіі 18 гадоў. З іх восем кіраваў, арганізоўваў аказанне псіхіятрычнай дапамогі. Маю намер і далей прыносіць карысць у сваёй краіне.

### Ці хацелі б застацца

Веру, што можа такое быць. Мне скажуць: «Аляксандр Пятровіч, мы падумалі і вырашылі, што без цябе ніяк. Заставайся». Пераканаены, што людзі, пакуль жывыя, могуць дамовіцца ў любой канфліктнай сітуацыі і здольны знайсці выйсце. Я выбіраю жыццё. У сваёй краіне, Беларусі. Хацелася б у Маладзечне.

Звяртаюся да жыхароў і чытачоў: калі вы назіраецеся ў мяне, то лепш арганізаваць сустрэчу да 31 ліпеня, каб вырашыць надзённыя пытанні і ўзгадніць арганізацыю далейшага назірання.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

*Працяг размовы з Аляксандрам Бажко чытайце ў наступных нумарах.*

# Якія парушэнні знайшлі з укосам траў

**У сельскагаспадарчых арганізацыях Мінскай вобласці завершаны першы ўкос шматгадовых траў. Многія гаспадаркі пачалі другі ўкос.**



У некаторых гаспадарках знайшлі парушэнні з нарыхтоўкай сена.

Фота goodfon.ru.

Каб прааналізаваць становішча спраў па гэтым пытанні, супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці правялі маніторынг у сельскагаспадарчых арганізацыях сямі раёнаў. А менавіта ў Валожынскім, Барысаўскім, Клецкім, Любанскім, Пухавіцкім, Салігорскім і Старадарожскім.

Знойдзеныя па выніках маніторынгу парушэнні сведчаць пра недастатковыя тэмпы падрыхтоўкі асобных гаспадарак да корманарыхтоўчай кампаніі і неабходнасці яе актывізацыі.

Напрыклад, нізкая гатоўнасць асобнай кормаўборачнай тэхнікі была ў трох сельгасарганізацыях Старадарожскага раёна і ў адной гаспадарцы Салігорскага раёна.

Таксама падчас маніторынгу адзначылі, што ў парушэнне патрабаванняў галіновага рэгламенту ў шэрагу гаспадарак закладка травяных кармоў прайшла без прымянення кансервантаў.

З парушэннямі ўстаноўленых галіновым рэгламентам тэрмінаў рабілі закладкі травяных кармоў у сянажна-сіласныя траншэі, напрыклад, у КСУП «Сівіца» і КСУП «Валожынскае» Валожынскага раёна.

Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці па выніках маніторынгу накіраваў суб'ектам гаспадарання рэкамендацыі па выпраўленні парушэнняў і недахопаў.

Кантроль за правядзеннем корманарыхтоўчых работ будзе працягвацца.

**Паводле Упраўлення кантролю за работай аграпрамысловага і прыродаахоўнага комплексаў Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

## ЛІЧБА НУМАРА



Больш за

**21 мільён**

экзэмпляраў складае сумарны выпуск фотаапаратаў «Смена 8М» і «Смена 8»

**Паводле dpreview.com.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.07 | 8.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5324 | **2.5552** |
| Еўра | 3.0116 | **3.0223** |
| Злоты, 10 | 6.6682 | **6.6896** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4707 | **3.4495** |
| Грыўня, 100 | 9.2971 | **9.3693** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **30.06** | **7.07** |
| Еўра | 2.9750/3.0550 | **2.9800/3.0500** |
| Долар ЗША | 2.5000/2.5800 | **2.5100/2.5900** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **30.06** | **7.07** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **4,60** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,20 | **4,20** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **4,20** |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **3,50** |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,40 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 1,40 | **3,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **4,00** |
| Перац, 1 кг | 8,50 | **4,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **7,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,00 | **5,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Дыня, 1 кг | 5,00 | **3,00** |
| Кавуны, 1 кг | 3,00 | **2,50** |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Маліны, 1 л | – | **5,00** |
| Нектарыны, 1 кг | 7,00 | **9,50** |
| Слівы, 1 кг | 10,00 | **6,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 7,50 | **8,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

# Дайджэст. Забойства прэзідэнта, тэрмін для Бабарыкі і мігранты на літоўска-беларускай мяжы

**«Рэгіянальная газета» традыцыйна расказвае пра галоўныя падзеі тыдня ў Беларусі і свеце.**

### Бабарыку прысудзілі 14 год турмы

6 ліпеня суддзя Вярхоўнага суда **Ігар Любавіцкі** прысудзіў палітзняволенаму **Віктару Бабарыку** 14 год у калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Бабарыку абвінавачвалі ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры і ў легалізацыі сродкаў, атрыманых злачынным шляхам. Бабарыка сваю віну не прызнаў.

**Паводле svaboda.org.**

### На мяжы Беларусі з Літвой літоўскія пагранічнікі ловяць мігрантаў

Ад пачатку года ўсяго літоўскія пагранічнікі затрымалі больш за 1400 нерэгулярных мігрантаў, большасць з іх – грамадзяне Ірака. Гэта лічба больш як у 17 разоў перавысіла іх колькасць у 2020 годзе. У 2020 годзе на мяжы быў затрыманы 81 мігрант.

У пятніцу, 2 ліпеня, урад Літвы абвясціў надзвычайную сітуацыю ў сувязі з рэзкім павелічэннем нелегальнай міграцыі ў краіну.

**Паводле pasienis.lt.**

### У Гаіці забілі прэзідэнта краіны

Прэзідэнт Гаіці **Жавэнэль Маіз** быў смяротна ранены падчас нападу невядомых на яго рэзідэнцыю.

Маіз кіраваў Гаіці з 2017 года пасля паўторных прэзідэнцкіх выбараў. Яны былі праведзеныя пасля расследавання фальсіфікацыі выбараў у 2015 годзе, якія выклікалі масавыя акцыі пратэсту.

**Паводле theguardian.com.**

### На Камчатцы разбіўся самалёт

6 ліпеня на Камчатцы ў Расіі разбіўся самалёт Ан-26. На борце знаходзілася 28 чалавек – 22 пасажыры і 6 членаў экіпажа. Па папярэдніх дадзеных, яны ўсе загінулі.

У кампаніі, якая валодала самалётам, раней выказвалі думку, што Ан-26 урэзаўся ў берагавую скалу, а частка абломкаў упала ў мора.

Выратавальнікі пакуль знайшлі целы толькі 19 загінулых.

**Паводле bbc.com.**

### Журналіста Аляксандра Івуліна прызналі палітзняволеным

Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі журналіста «Трыбуны» **Аляксандра Івуліна** палітычным зняволеным. Івуліна затрымалі на пачатку чэрвеня за бел-чырвона-белы сцяг у кватэры. Яму прысудзілі 30 сутак адміністрацыйнага арышту. 2 ліпеня стала вядома, што Івулін стаў падазраваным па крымінальным артыкуле за арганізацыю і ўдзел у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак.

Агулам у Беларусі 534 палітвязні.

**Паводле nn.by.**

### У Тбілісі адбыліся сутычкі з-за акцыі ў абарону ЛГБТ

6 ліпеня ў Тбілісі адбыліся сутычкі з-за адмененага марша ў абарону грузінскай ЛГБТ-супольнасці, які павінны быў прайсці 5 ліпеня. У той дзень радыкальныя групы разграмілі офіс арганізацыі «Тбілісі прайд». Радыкалы спрабавалі сарваць маўклівую акцыю пратэсту. У выніку іх дзеянняў пацярпелі каля 50 журналістаў.

Грузінскія ўлады вядуць следства па крымінальных артыкулах аб незаконнай перашкодзе журналістам у ажыццяўленні прафесійнай дзейнасці. Распачатыя справы аб пашкоджанні і знішчэнні маёмасці ў арганізацыі «Тбілісі прайд» і ў руху «Ганьба».

**Паводле bbc.com.**

### На Анжаліку Агурбаш завялі крымінальную справу

У дачыненні да артысткі **Анжалікі Агурбаш** распачалі крымінальныя справы за распальванне варожасці і абразу Аляксандра Лукашэнкі.

Спявачку аб'явілі ў вышук, а Генеральная пракуратура Беларусі патрабуе яе выдачу ў Расіі. Нагадаем, што ў Агурбаш расійскае грамадзянства.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ля вёскі ў Смаргонскім раёне знайшлі шкілет мужчыны

У лесе ля Бялевічаў ў Смаргонскім раёне знайшлі парэшткі чалавека.

Вядома, што гэта шкілет мужчыны. Асоба пакуль невядомая. Таксама былі выяўлены фрагменты адзення.

Па гэтым факце праводзіцца праверка.

**Паводле shliah.by.**

## Сям'я з Алёхнавічаў хацела купіць дзіцячыя рэчы, а стала ахвярай махляроў

35-гадовая жыхарка Алёхнавічаў знайшла ў папулярнай суполцы ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» аб'яву аб продажы дзіцячых рэчаў. Прыняўшы рашэнне набыць тавар, яна напісала прадаўцу.

Абмеркаваўшы з апошняй умовы здзелкі, пакупніца прапанавала перавесці на карту невядомай задатак. У выніку муж жанчыны пералічыў на рахунак, указаны зламысніцай, 50 рублёў.

На наступны дзень махлярка пераканала пакупнікоў перавесці ёй на банкаўскую картку астатнюю частку грошай за тавар. Паводле яе слоў, пасля аплаты кіроўца даставіць заказ з Браслава на неабходны адрас. Жанчына з мужам выканалі ўмовы і пералічылі яшчэ 150 рублёў.

Але пакупак жыхары Маладзечанскага раёна так і не дачакаліся, разам з тым страціўшы больш за дзвесце рублёў. Пасля пераводу так званая прадавец перастала адказваць на паведамленні і выдаліла ўліковы запіс.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Ліпень на Маладзечаншчыне пачаўся з пажараў

Пажары ў Маладзечанскім раёне здарыліся 1 і 4 ліпеня, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна. 1 ліпеня ў 08:13 выратавальнікі ГРАНС Маладзечна выязджалі на тушэнне пажару ў Дземяшы Гарадзілаўскага сельсавета. У выніку пажару драўляны дом выгараў знутры, пашкоджаны дах. Прычыну пажару высвятляюць.

4 ліпеня ў 10:16 ратавальнікі ліквідавалі пажар у садовым таварыстве «Лазурны» каля вёскі Уша. У выніку пажару, прычына якога ўстанаўліваецца, закураная кухня.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Ашмяншчыне патанула жанчына

Пра патанулую жанчыну выратавальнікам паведамілі 4 ліпеня каля 20 гадзін.

Загінулая – 60-гадовая пенсіянерка. Яна патанула ў вадаёме каля вёскі Грынцы Жупранскага сельсавета. Работнікі МНС дасталі цела з вады.

**МНС.**

## Жыхарка Смаргоні паспела выратаваць жыццё свайму дзіцяці

Па папярэдніх дадзеных, 2 ліпеня чатырохгадовы хлопчык знаходзіўся дома з мамай.

Днём дзіця выйшла на двор, каб пагуляць. Праз некаторы час жанчына знайшла яго без прытомнасці ў штучнай сажалцы на прысядзібным участку. Мясцовая жыхарка зрабіла сыну масаж сэрца, вызваліўшы лёгкія ад вады, і выклікала «хуткую».

Хлопчык шпіталізаваны. Цяпер яго жыццю і здароўю нічога не пагражае.

Следчыя правялі агляд месца здарэння, прызначаная судова-медыцынская экспертыза, апытаныя сваякі і суседзі дзіцяці.

Па дадзеным факце Смаргонскім раённым аддзелам Следчага камітэта праводзіцца праверка.

**Следчы камітэт.**

## У Смаргоні будуць судзіць непаўнагадовага за здзек з дзяржаўнага сцяга

Пракуратура Смаргонскага раёна накіравала ў суд крымінальную справу ў адносінах да непаўнагадовага хлопца. Яго абвінавачваюць за здзек з дзяржаўнага сцяга Беларусі.

Артыкул 370 Крымінальнага кодэкса «Здзек з дзяржаўных сімвалаў». Пакаранне па дадзеным артыкуле прадугледжвае грамадскія працы ці штраф альбо папраўчыя працы на тэрмін да двух год, альбо арышт, альбо абмежаванне волі на тэрмін да аднаго года.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, 29 мая ў 23:30 17-гадовы хлопец сарваў сцяг з будынка Жодзішкаўскай сельскай бібліятэкі.

Да суда ён знаходзіцца пад наглядам на волі.

**Прэс-служба Гродзенскай пракуратуры.**



Фота lentachel.ru

# Маладзечанца асудзілі на 8 год. Ён спрабаваў забіць былую жонку на вачах дзіцяці

**5 ліпеня суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд па справе ў дачыненні да мужчыны, які спрабаваў забіць сваю былую жонку. Аб гэтым паведамляе прэс-служба Мінскага абласнога суда.**

Мужчыну абвінавачвалі па двух крымінальных артыкулах:

- частка 1 артыкул 14 «Замах на злачынства»;
- частка 1 артыкул 139 «Забойства».

Падчас здарэння мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення. Раней Маладзечанскі РАУС паведамляў, што ён прыйшоў у госці да былой жонкі, але яе не было дома.

Мужчына сустрэў жонку на лесвіцы, калі збіраўся сыходзіць. Жанчына вярталася з дзіцем з басейна. Там ён на глебе рэўнасці нанёс у вобласць галавы і тулава не менш за чатыры ўдары рукамі і не менш за пяць удараў нажом. Жанчына атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні, але засталася жывая.

Суд прысудзіў мужчыну восем год папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хлопца асудзілі на чатыры гады калоніі за ДТЗ у Валожынскім раёне. У ім пацярпела 14-гадовая дзяўчынка

**Суд Валожынскага раёна прысудзіў хлопцу чатыры гады калоніі за ДТЗ, у якім пацярпела 14-гадовая пасажырка. Аб гэтым паведаміла прэс-служба Мінскага абласнога суда.**

Справу разглядаў суд Валожынскага раёна. Хлопца абвінавачвалі па частцы 4 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса «Парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў».

Каля 23 гадзін 30 сакавіка нецвярозы 19-гадовы малады чалавек сеў за руль нядаўна набытага БМВ.

**Пасведчання кіроўцы і дакументаў на аўтамабіль у хлопца не было, а машыну ён набыў за грошы, якія выйграў у латарэю.**

З сабой ён узяў прыяцеля, з якім у гэты дзень піў піва, а таксама яго знаёмую. Заехаць да яшчэ адной дзяўчыны, як планавалася, маладыя людзі не паспелі. Паблізу вёскі Глеі Валожынскага раёна кіроўца з'ехаў у кювет, дзе наехаў на дрэва.



Фота СК Беларусі.

Пашкоджаны ў аварыі аўтамабіль абвінавачанага.

У выніку ДТЗ 14-гадовая пасажырка атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні.

29 чэрвеня 19-гадовага хлопца пакаралі чатырма гадамі папраўчай калоніі з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, на пяць гадоў. Хлопец быў раней не судзімы.

Прысуд не ўступіў у законную сілу. Ён можа быць абскарджаны і апратэставаны.

**Аддзел інфармацыі.**



# У Будславе прайшоў традыцыйны каталіцкі фэст

Падчас шэсця са свечкамі.



Вернікі ля касцёла пасля прамовы Кандрусевіча.



Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

**2-3 ліпеня праходзіць Будслаўскі фэст. «Рэгіянальная газета» паглядзела, як праходзілі ўрачыстасці ўпершыню пасля пажару будслаўскага касцёла.**

## Што адбылося на фэсце

Побач з будслаўскім касцёлам перад фэстам усталявалі крыж, які зрабілі з абгарэлых бэлек і фрагментаў медзі з яго даху, што знішчыў пажар 11 мая. Доступ у касцёл быў закрыты, знаходзіцца каля яго і ў ім было забаронена.

Увечары 2 ліпеня арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч** узначаліў у Будславе цэлебрацыю святой імшы для пілігрымаў.

– Сёння ля падножжа апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай мы просім яе апекі для касцёла ў нашай краіне, для нас саміх і нашай Бацькаўшчыны, якая перажывае складаны час пандэміі каранавіруса і грамадска-палітычнага крызісу. Да іх нечакана далучыўся пажар Будслаўскага санктуарыя, – казаў Кандрусевіч.

Пасля 23 гадзін адбылася традыцыйная працэсія са свечкамі. Апоўначы пасля шэсця са свечкамі цэлебрацыю ўзначаліў старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі **Алег Буткевіч**. Буткевіч пачаў казанне з радкоў за аўтарствам Якуба Коласа «Мой родны кут, як ты мне мілы...». Біскуп сказаў, што ў гэты час вернікі асаблівым чынам моляцца аб заканчэнні пандэміі, аб міры для Бацькаўшчыны і паспяховым вырашэнні праблем у грамадска-палітычным жыцці.

– Каб Беларусь стала па-сапраўднаму краінай для жыцця – годнага жыцця кожнага грамадзяніна, – падкрэсліў Буткевіч падчас імшы.

3 ліпеня заключнае богаслужэнне будслаўскага фэсту ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Антэ Ёзіч**. На ёй прысутнічалі некалькі тысяч вернікаў.

На фэст у Будслаў завіталі прадстаўнікі выканкамаў. Прыязджаў **Аляксандр Турчын**, кіраўнік Мінаблвыканкама, а на самім фэсце амаль увесь час знаходзіўся старшыня Мядзельскага райвыканкама **Анатоль Вайнілка**. У Будславе знаходзілася шмат супрацоўнікаў сілавых структур ва ўніформе і ў цывільнай вопратцы, яны патрулявалі плошчу ля касцёла.



Вернікі адпачываюць ля касцёла падчас фэсту.

## Пажар у будслаўскім касцёле

Пажар у будслаўскім касцёле адбыўся 11 мая. Дах касцёла быў амаль цалкам знішчаны. Пажар тушылі больш за тры гадзіны. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па частцы 2 артыкула 304 «Парушэнне правілаў пажарнай бяспекі асобай, адказнай за іх выкананне, што пацягнула па неасцярожнасці ўзнікненне пажару, які прычыніў шкоду ў буйным памеры».

За два месяцы на аднаўленне будслаўскага касцёла сабралі больш за 600 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

*Апытанне з будслаўскага фэста чытайце на старонцы 24.*




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Рухавік ВАЗ-210836, СПХ да ВАЗ-21099, да ВАЗ-2101, да «Масквіча-412» і запчасткі да ВАЗ-21099. Т. (8-029) 9050949.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён – Зеніт. Агульная плошча 65,6 кв.м, 3 паверх 5-павярховага панэльнага дома. Магчымы абмен на 1-пакаевую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 6615287.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2982204.*

• Гараж у Маладзечне ў ГК-32 (Фестывальны). Плошча 6 х 4 м, вышыня дзвярэй 2,48 м, вышыня ад падлогі да столі 2,74 м, у падвале пакладзеная сцяжка з гідраізаляцыяй. Гараж электрыфікаваны. Прапанову з Вашай магчымай цаной і нумарам тэлефона адпраўляйце праз SMS на (8-029) 8550550. Калі мне спадабаецца Ваша цана, то я Вам перателефаную.*

• Дача ў СТ «Узгор'е», эл.ст. Баяры, 45 кв. м, 2 паверхі, гараж, лазня асобна. У доме ёсць печ, 2 каміны, газавая пліта, 3 пакоі і кухня з мэбляй, балкон. 5,5 соткі, дагледжаная, з насаджэннямі. Т. (8-029) 6603563. Наталля.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Тэрмінова прадам кватэру 3-пакаёвую ў Вілейцы па вул. Гагарына. Т. (8-01771)27765, (8-029)2907517.

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Хмяльніцкага, д. 6, насупраць базару. Т. (8-029) 7052670.*

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне магазіна плошчай 370 кв.м у Маладзечне па вул. Святаянскай, 75. Ёсць памяшканне для вытворчасці паўфабрыкатаў. Магчымы продаж. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Музыка. Відэа. Фота. Т. (8-029) 8578378.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыентам і школьнікам! Рэпетытар па хіміі і біялогіі. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вароты адкатныя і двухстворкавыя. Агароджы. Навесы. Казыркі і іншыя вырабы з металу з коўкай ці без. Растэрміноўка. ІП Дрозд. УНП 692024743. Т. (8-029) 7611311, (8-044) 7145208.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах: мантаж новага, дэмантаж, рамонт. Аддзелка сайдынгам і ўцяпленне фасадаў: пенапласт, вата, дэкаратыўка. ІП Бялугін А.Д. УНП 692252180. Т. (8-029) 2641389 МТС, (8-029) 1641389 А1.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Петрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Устаноўка помнікаў, мантаж, дэмантаж, укладка пліткі. Растэрміноўка. ІП Сідаровіч А.М. УНП 691187210. Т. (8-044)7203521.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арганізацыя прадае фрызы і дэкоры, бардзюрныя ўстаўкі старых калекцый пліткі «Керамін» ад 20 капеек за штуку. Вялікі асартымент. Складскія рэшткі ў Маладзечне. Запрашаем дызайнераў і будаўнікоў для рэалізацыі смелых арыгінальных рашэнняў. Крама «Сантэхніка плюс», г. Маладзечна, Чкалава, 4 (каля гарадскога стадыёна). ІП Качаткоў В.Б. УНП 690295509. Тэл. для даведак: (8-029)6423464.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Станок дрэваапрацоўчы б/у. Т. (8-029) 3540476.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты бройлерныя БІГ6. Т. (8-033) 6908397 МТС, (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Прадам сена, Маладзечанскі р-н. Т. (8029) 6870898, А1.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленыя сертыфікаты ЦТ за 2020 год Дайняка Станіслава Вячаслававіча па рускай мове, фізіцы, матэматыцы.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі патрабуецца слесар і вадзіцель-міжнароднік катэгорыі «Е». Т. (8-029) 3436989.

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



Фота Настассі УЛЬНАЙ.

Ігар Сідаровіч.

# Мужчыну асудзілі за абразу начальніка Маладзечанскага РАУС

**Прысуд вынесла 1 ліпеня суддзя Іна Каханоўская – 1 год і 6 месяцаў дамашняй «хіміі» і 1500 рублёў кампенсацыі маральнай шкоды Вадзіму Прыгару.**

У разглядзе справы ўдзельнічаў дзяржаўны абвінаваўца **Жук** і абаронца **Кананчук**. Пацярпелы – начальнік Маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара**.

Асуджанаму **Ігару Сідаровічу** 48 год. Ён мае інваліднасць другой групы.

Сёлета 31 сакавіка суд Маладзечанскага раёна асудзіў Сідаровіча па частцы 1 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса «Актыўныя дзеянні, што парушаюць грамадскі парадак». Яго разам з пяццю маладзечанцамі судзілі па справе аб перакрыцці Вялікага Гасцінца 21 лістапада з банерам «Пакуль у краіне беззаконне, супраціўленне – наш доўг». Па выніках гэтага разбору Сідаровіч атрымаў штраф у памеры 140 базавых велічынь, што складае 4060 рублёў. Штраф на момант новага прысуду не выплачаны.

У межах цяперашняга разбору яму паставілі ў віну злачынства, прадугледжанае артыкулам 369 Крымінальнага кодэкса «Абраза прадстаўніка ўлады».

Суд пастанавіў прызнаць вінаватым Ігара Сідаровіча ў абразе прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем тым службовых абавязкаў праз інфармацыю, размешчаную ў інтэрнэце. І прызначыць пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды без накіравання ў папраўчую ўстанову на 1 год і 6 месяцаў. Суд вырашыў задаволіць грамадзянскі іск пацярпелага Вадзіма Прыгары аб спагнанні матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды з Сідаровіча.

**Сідаровіч па рашэнні суда павінны выплаціць Прыгару 1500 рублёў. Тэрмін для спагнання ўстанавілі цягам аднаго месяца.**

Рэчавыя доказы па справе – чатыры лісты скрыншотаў тэлеграм-групы «Маладзечна для жыцця чат», скрыншоты на сямі старонках з тэлеграм-каналаў «Карнікі Маладзечна» і «Чорная кніга Беларусі», банкаўская картка, шэсць дыскаў, што з'яўляюцца дадаткам да пратакола агляду, чатыры дыскі, што з'яўляюцца дадаткам да заключэння экспертаў, два дыскі з тэлефоннымі злучэннямі. Мабільны тэлефон асуджанага канфіскавалі ў даход дзяржавы.

Прысуд можа быць абскарджаны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Карысныя падказкі для аматараў прыроды

**Вы можаце прайсці бясплатны анлайн-курс па гарадскіх птушках.**

Усё проста: вывучаеш 40 відаў, праходзіш тэст, атрымліваеш электронны сертыфікат: **course.ptushki.org.**

Існуе тэлеграм-чат «Ціў-ціў» для беларускіх аматараў назіраць за птушкамі: **t.me/ptushki.**

Стварылі мабільны вызначальнік птушак для Android – Ptushki на Play Market.

Птушкам можна нават пазваніць на мабільны тэлефон:

- **+375445006611** Чорны дрозд
- **+375445006612** Усходні салавей
- **+375445006613** Вялікі голуб
- **+375445006614** Гіль
- **+375445006615** Сіняя сініца
- **+375445006616** Чорнагаловы шчыгол
- **+375445006617** Малінаўка
- **+375445006618** Берасцянка
- **+375445006619** Крапіўнік
- **+375445006610** Шэрая кугакаўка.

# Працягваем назіраць, што адбываецца з птушкамі

**У №26 «Рэгіянальнай газеты» мы публікавалі артыкул жыхара Навасёлак-1 Маладзечанскага раёна Леаніда Жыткевіча. Аўтар падзяліўся разважаннямі пра тое, якія птушкі і жывёлы зніклі і якіх стала больш у яго вёсцы за 20 год.**

Мы папрасілі пракаментаваць публікацыю дырэктара грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» **Аляксандра Вінчэўскага**.

На заўвагу чытача пра тое, што са здзіўленнем бачыў варону ў цэнтры Мінска, Вінчэўскі адказвае:

«Гэта пацвярджаецца маімі назіраннямі. Вароны былі раней птушкамі балот і поймаў, цяпер там засталіся адзінкавыя пары, а большая частка папуляцыі жыве ў гарадах. У Мінску амаль у кожным двары па пары».

Наконт гракоў дырэктар АПБ адзначыў, што і цяпер яны жывуць там, дзе іх гнёзды метадычна не знішчаюць. А вось наконт знікнення галак і сарок – «Раней сапраўды каўкі жылі і па-за межамі паселішчаў, сам даўно не бачыў гнездавых пар у палях. У Мінску абодва віды звычайныя. Але каўка знікае пасля ўцяплення дамоў, бо гнездавыя нішы знікаюць».

Наконт дзятлаў – «У Беларусі жыве дзевяць відаў дзятлаў. Рэдкія і засталіся рэдкімі, а звычайныя – звычайнымі. Зайдзіце ў любы лес у красавіку раніцай – 100% пачуеце. А кузні дзятлаў – паўсюль».



Фота Дзмітрыя ЯКУБОВІЧА.

Грак.

Вінчэўскі пагаджаецца, што крумкачоў стала больш – «Пацвярджаю, умовы для іх добрыя. У гэтых птушак вялікая частка папуляцыі не размнажаецца, а бадзяецца бандамі па вялікай плошчы, нават за 500 кіламетраў могуць адляцець за прыгодамі. На ўскрайках гарадоў пачалі гнездавацца яшчэ ў 1990-я, калі я выкладаў у Гродзенскім універсітэце.

Каршуны цяпер у Чырвонай кнізе, на ўсю краіну некалькі соцень пар. А шулякі і былі звычайнымі, і засталіся. Іх не можа быць шмат, бо гэта тэрытарыяльныя птушкі і не любяць суседзяў».

Чытач адзначыў, што даўно не чуў спеваў жаўрукоў і кнігавак. Вось што адказвае АПБ: «Лецішча ў мяне пад Мінскам, вакол жывуць тысячы жаўрукоў, сотні кнігавак. Маніторынг птушак, якія АПБ арганізавала з дапамогай валанцёраў, паказаў, што за дзесяць гадоў ёсць невялікі спад колькасці кнігавак. Усе тры віды ластавак звычайныя ў нас. Негатыўнай тэндэнцыі няма. У маёй вёсцы гнёзды паўсюль, нават над вулічнымі лямпамі, дзе разбітае шкло.

Пра сітавак, аўсянак, мухаловак і салаўёў Вінчэўскі адзначае – гэтыя птушкі любяць адмысловыя біятопы, і там, дзе такія ёсць, там ёсць і птушкі.

Наконт бабра пазнака наступная: бабёр – абарыген, а андатру прывезлі з Амерыкі. Абодва цяпер звычайныя віды ў краіне.

Што тычыцца заўважанай распаўсюджанасці слімакоў, то «Слімакоў ёсць шмат хто з жывёл. У Беларусь завезлі з садовым матэрыялам вялікіх іспанскіх голых слімакоў, яны знішчаюць амаль усё, хутка размнажаюцца, забіваюць нават птушанят у гнёздах. Але беларуская служба аховы раслін іх ігнаруе, таму што ў лісце ЕўразЭС іх няма.

Вінчэўскі падсумоўвае сітуацыю: «У інтэнсіўных гаспадарках не пяюць птушкі і не растуць валошкі і макі. У Беларусі пестыцыды пакуль яшчэ не выкарыстоўваюць у такой колькасці, як у ЕС, дзе амаль усе нашы звычайныя палявыя віды ў Чырвонай кнізе: курапаткі, жаўрукі, стрынаткі, кнігаўкі. Трэба шукаць баланс».

**Аддзел інфармацыі.**

# Бензінавыя памочнікі ў будаўніцтве і гаспадарцы

**По тыпу рухавікоў бензаінструменты дзеляць на двухтактныя і чатырохтактныя.**

### Двухтактныя рухавікі

У двухтактныя ў бензін дадаюць адмысловую аліву для двухтактных рухавікоў. Без спецыяльнай алівы рухавік можна зарэзаць за паўгадзіны працы. Гэта як у аўтамабілі ездзіць без алівы.

Па досведзе карыстання больш за ўсё даруюць варварскае стаўленне да сябе нямецкія інструменты. Менш даруюць памылкі інструменты кітайскага, італьянскага, французскага паходжання і не толькі.

Двухтактныя бензаінструменты: косы-трымеры, бензапілы, бензарэзы, бензабуры. Кожны інструмент па-свойму капрызны, але хачу звярнуць увагу на вельмі частую памылку з ланцужковымі піламі. У іх ёсць яшчэ асобны бачок для адмысловага алею, які прыліпае да ланцуга, каб змазаць яго. У СССР, кажуць, была адна піла «Дружба», і ёй не патрабавалася аліва для ланцуга. Не ведаю, якое інжынернае рашэнне там было ўвасобленае, але памяць пра гэту пілу засталася ў генах і ўнукаў. Цяпер ва ўсе пілы заліваюць спецыяльную аліву для ланцуга.

Аліву для двухтактных рухавікоў прадаюць на любой запраўцы. Бензін з разведзенай у прапісанай вытворцам прапорцыі алівай захоўваюць не больш за два месяцы. Менавіта таму па заканчэнні сезона бензін трэба зліць, а інструмент завесці і адпрацаваць да поўнага спальвання паліва. Калі гэтага не зрабіць, трапіце, як мінімум, на дарагую чыстку карбюратара, а то і на поўную яго замену.

Любыя інструменты, і бенза-, і электрычныя, дзеляцца на прафесійныя і аматарскія. І калі з прафесійным інструментам можна працаваць доўга, усю працоўную змену, то з таннымі аматарскімі – 20-30 хвілін. Пасля інструменту неабходны адпачынак, мінімум 30 хвілін. Таму ўчастак у 10 сотак аматарскай касой можна і трэба касіць гадзіны тры, з перапынкамі. А прафесійным трымерам можна справіцца за гадзіну.

### Чатырохтактныя рухавікі

Чатырохтактныя рухавікі ўсталёўваюць на такія бензапрылады, як культыватары, генератары, вібрапліты, газонакасілкі.

Іх ад двухтактных адрознівае тое, што аліва заліваецца асобна. І ў бак льецца чысты бензін, як у аўтамабілях. Такія апараты больш надзейныя і працейшыя ў эксплуатацыі. На нашым рынку прадстаўленыя ў асноўным даступныя па кішэні нашага карыстальніка аматарскія асобнікі, якія трэба берагчы абмежаваннем у працы – 30 хвілін і адпачынак.

Акрамя генератараў, дарэчы. На бензагенератарах усталяваны рухавікі для працяглай працы, але не трэба эксперыментаваць і перагружаць генератар не прадугледжанай для яго нагрузкай. Чытайце нагрузку генератара і складайце падключаныя да яго прыборы. Матэматыка 2-3 класа, але так часта ёй грэбуюць і выводзяць прыбор з працы.

Рэкамендацыі па абслугоўванні чатырохтактных памочнікаў: мяняць раз у сезон аліву, сачыць за ўзроўнем алівы, правяраць і чысціць паветраны фільтр, трымаць у чысціні, захоўваць пад навесам або ў гаражы.

Важна! Часта ў чатырохтактных прыладах усталёўваецца датчык ціску алівы, і калі ўзровень алівы знікае – рухавік глухне. Гэта абарона рухавіка ад паломкі. Здаецца, усё зразумела і даступна. Але на практыцы «Пракату інструмента»,



Фота hype.tech.

Бензаінструмент у працы.

што ў Маладзечне, на Чкалава, 4 у Гелянове, каля стадыёна, даволі часта сустракаецца, што дарослыя мужчыны ледзь не плачуць у трубку тэлефона, калі ў іх «цацка зламалася і не заводзіцца». Бензін праверылі – значыць, усё заводзяць па інструкцыі, а яна не заводзіцца. Гэта можа быць культыватар, генератар, вібрапліты.

– А аліву глядзелі?

– А дзе гэта? А што гэта?

Пасля невялікай інструкцыі і далівання алівы апарат звычайна працягвае спраўна працаваць.

З вамі быў ваш **Кофф Баевіч**, і няхай вашы інструменты працуюць вам на карысць і на радасць.

## Беларусь 1

**6.00** Х/ф **«ЖИВИ СВОЕЙ ЖИЗНЬЮ».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00** Навости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье. [СТ].
**10.45** Дача.
**11.20** «Повод есть».
**12.10** Т/с **«ОТЕЛЬ «ФЕНИКС 2».**
**14.10** Женщины и спорт.
**15.10** Краіна.
**15.40, 19.25** Х/ф **«ОБОРВАННАЯ МЕЛОДИЯ».**
**19.00** «Вопрос номер один».
**19.55** «Славянский базар в Витебске». Видеодневник.
**20.00** XXX Международный конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск-2021». День первый «Мировой хит».
**22.00** Панорама.
**22.40** Х/ф **«ТЕНЬ ЗВЕЗДЫ».**
**0.30** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 17.55** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**10.00** Анимация для всей семьи «Динозавр».
**11.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.25** «Камень, ножницы, бумага».
**13.00** «На неделю».
**13.50** Х/ф **«ПОД СОЛНЦЕМ ТОСКАНЫ».**
**16.00** Фильм-биография «Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее».
**18.00** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.
**20.00, 21.15** Фэнтези «Оз: Великий и ужасный».
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.45** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ПЕСНЯ».**

## Беларусь 3

**7.10** «Гадкий утенок». Мультфільм.
**7.30** «Сіла веры».
**8.00, 14.40** Навіны культуры.
**8.15** «Не можа быць!» Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Жывая спадчына». Традыцыя вырабу і выкарыстання ўбору Лелікаўскай свахі (г.Кобрын, в.Лелікава, в.Павіцце, а/г Дывін, Брэсцкая вобласць).
**10.20** «Беларуская кухня». Піражкі па-церахавіцку.
**10.50** «Авадзень». Мастацкі фільм [СТ].
**14.10** «Навукаманія».
**15.00** «Славянскі базар у Віцебску-2021». XIX Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2021». Дзень першы. Прамая трансляцыя.
**16.50** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**17.25** «Легенды кіно». Яўген Еўсцігнееў.
**18.00** «Па сямейных абставінах». Мастацкі фільм [СТ].
**20.20** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, пісьменнік Серж Мінскевіч.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** XXX Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Урачыстае адкрыццё.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** «На дачу!» с Наташей Барбье.
**11.25** «Видели видео?».
**13.40** Ко дню рождения Пелагеи. «Честное слово».
**14.25** Концерт Пелагеи «Вишнёвый сад».
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**17.55** «Сегодня вечером».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Сегодня вечером» Продолжение.
**21.50** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.
**0.00** «Аль Бано и Ромина Пауэр: «Felicita на бис!». Концерт.

## СТВ

**6.40, 23.25** Т/с **«ТУРИСТЫ».**
**8.10** «Анфас».
**8.30** «Самая полезная программа».
**9.30** «О вкусной и здоровой пище».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00** «Неизвестная история».
**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«КАРПОВ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.20** «СТВ-спорт».
**20.30** Документальный спецпроект.
**21.55** «Территория заблуждений».
**0.55** Т/с **«КОНФЕРЕНЦИЯ МАНЬЯКОВ».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«САДКО».**
**5.10, 6.15** Мультфильмы.
**6.00** «Всё, как у людей».
**7.05** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.10** Х/ф **«ЗНАХАРЬ».**
**13.00, 16.15, 19.15** Т/с **«АННА ГЕРМАН».**
**0.50** XXX Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». «Союзное государство приглашает…».
**2.20** Х/ф **«КУРБАН-РОМАН».**
**4.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.
**6.20** «Дача».
**7.10** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** Один день.
**9.25** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Сломать стереотипы.
**10.40** Главная дорога.
**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.05** Квартирный вопрос.
**13.05** Истории спасения.
**13.35** «Поедем, поедим!».
**14.10** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**
**15.20, 16.20** «Следствие вели…».
**17.10** «Секрет на миллион».
**19.25** Т/с **«ПОТЕРЯННЫЕ».**
**23.20** Х/ф **«ИДЕАЛЬНОЕ УБИЙСТВО».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.30** «Специальный репортаж».
**9.50** «Тайны Беларуси».
**11.00, 20.00** ВЕСТИ.
**11.20** «В людях».
**12.05** «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.10** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.10** Х/ф **«СЛАДКОЕ ПРОЩАНИЕ ВЕРЫ».**
**16.15** Х/ф **«ОДИНОЧЕСТВО».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ЗАМОК НА ПЕСКЕ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 23.55** Холодная гора. **7.20, 2.30** Правила виноделов. **9.25** Фрида. **11.35** Спайдервик: Хроники. **13.10** Лара Крофт: Колыбель жизни. **15.05** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **16.45** Ловушка для родителей. **19.00** Оптом дешевле. **20.45** Оптом дешевле 2. **22.20** Без тормозов.

### TV1000 ACTION

**5.10** Глубоководный горизонт. **7.25** Уличный боец. **9.05** После нашей эры. **10.40, 3.35** Схватка. **12.40** Затерянные во льдах. **14.15** Континуум. **16.05** Невидимка. **18.00** Другой мир. **20.00** Другой мир 2: Эволюция. **21.45** Другой мир: Восстание ликанов. **23.10** Другой мир: Пробуждение. **0.30** Монстры. **2.00** Пророк.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.55** Подарок с характером. **7.15** Друзья друзей. **8.50** Zолушка. **10.20** Майор Гром: Чумной Доктор. **12.55, 13.45, 14.35, 15.20, 16.10, 17.00, 17.50, 18.35, 19.30, 20.15, 21.05, 21.55, 22.40, 23.30** Ликвидация. **0.15** Дикая Лига. **2.05** Время Первых. **4.15** Цой.

### ТВ3

**6.00** Коллекция Беларусьфильма. **8.55** «На перепутье». **10.45** «Налегке». **11.25** «M&S». **12.05** «Посмотрим». **12.45, 23.00** «Перископ». **13.05** «Сверхъестественный отбор». **14.10** «Новый день». **14.50** «Агентство О.К.О.». **16.45** «Хватит слухов». **17.20** «Второе зрение». **19.25, 5.15** «Это случается только с другими». **20.25** «Осторожно мошенники!». **21.00** ЛУЧШЕЕ. РУ: «Четыре кризиса любви». **23.20** Х/ф **«ПРОМЕТЕЙ». 1.30** «Грань». **3.00** «Викинги». **4.25** «Колдуны мира».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПОДРУГА БАНКИРА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПО ИМЕНИ БАРОН». 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.15** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ». 3.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ОТ ВСЕХ БОЛЕЗНЕЙ». 5.35** Х/ф **«ГОРОСКОП НА УДАЧУ». 7.25** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ». 9.25** Х/ф **«ГИТЛЕР КАПУТ». 11.15** Х/ф **«ПОДМЕНА». 13.10** Х/ф **«ПРОСТУШКА». 15.05** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 17.10** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС». 19.30** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС: ИГРА ТЕНЕЙ». 21.45** Х/ф **«ХОЛОСТЯЧКИ». 23.20** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 1.35, 2.30, 4.00, 4.55, 5.55, 6.55** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ». 7.55, 8.55, 9.55, 10.55** Т/с **«СЕРДЦЕ АНГЕЛА». 11.55, 12.55, 13.55, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 1.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **13.05** Х/ф **«ТАКСИ 3». 14.45** Т/с **«МАМОЧКИ». 17.00** Х/ф **«ВНУТРИ СЕБЯ». 19.00** Х/ф **«13-Й РАЙОН». 20.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.15** Х/ф **«ЗАЩИТНИК». 0.00** Х/ф **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ». 2.35** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 3.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** На пути к Токио-2020. **7.30** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 16-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Динамо-Минск. **9.25** Легкая атлетика. Чемпионат Европы среди юниоров. Таллин. Утренняя сессия. **12.50, 22.45** Теннис. WTA. Прага. Лозанна. 1/2 финала. **15.00** Легкая атлетика. Чемпионат Европы среди юниоров. Таллин. Вечерняя сессия. **18.30** Теннис. WTA. Будапешт. 1/2 финала. **20.35, 22.35** Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Висла. HS 134. Мужчины. Квалификация. **1.00, 4.00, 9.30, 11.30** Велоспорт. «Тур де Франс». 19-й этап. **2.30** Автогонки на выносливость. «6 часов Спа». Гонка. **6.30** Автогонки на выносливость. «8 часов Портимао». Гонка. **8.30, 10.30, 19.10, 23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Лондон-2012. **14.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 20-й этап. Прямая трансляция. **20.10** Велоспорт. «Тур де Франс». 20-й этап. **22.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Висла. HS 134. Мужчины.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.30, 9.20, 11.50, 14.55, 17.50, 21.35, 0.25, 2.45** Итоговые новости. **6.45, 12.45, 17.15, 18.10, 20.45, 23.55, 4.35** От Кавказа до Аравии. **7.45, 8.45** Испытание на прочность. **8.15, 9.35** Возвращение легенды. **10.10** Комплектация. **10.40, 18.45** Всё включено. **11.15, 19.30, 23.20, 3.30** Всё о мото. **12.05, 20.00, 22.35, 4.05** Тест с дядей Ваней. **13.20, 0.45** Байки про байки. **14.00, 1.25** Мото дуэль. **14.20, 15.15, 1.40** Тест на «Драйве». **15.45** Автовинтаж. **16.30, 21.50, 5.05** Советы юриста. **19.20** Наезд! **21.15, 5.45** Эконом-тест. **3.00** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40** Переделка старья. **8.25, 9.15, 10.00, 10.45** Драндулеты на продажу. **11.35, 12.20, 18.45** Винтажные электромобили. **13.10, 14.00** Строительство гигантов. **14.45, 15.35** Масштабные инженерные ошибки. **16.20, 17.10, 21.15, 3.40, 4.25** Ледовые викинги. **18.00, 22.00** Речные чудовища. **19.35** Строительные неудачи. **20.30** Железная дорога во льдах. **22.55, 23.40** Дикая Монтана. **0.30, 1.15** Австралийские золотоискатели. **2.00, 2.50** Австралийские охотники на лобстеров. **5.15, 5.35** Демонтаж: Новая Зеландия.

### HISTORY

**6.20, 7.05** Тайны музеев. **7.50, 18.20, 1.15** Падение империи. **8.40, 19.10, 20.05, 2.00** Последний поход викингов. **9.35** Призрак из Каменного века. **10.30** Тайна Копья Судьбы. **11.30** Загадка троянского коня. **12.25, 13.30, 14.35** Древние конструкторы. **15.40, 21.00** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **16.30, 21.50** Новые тайны терракотовых воинов. **17.25, 22.45** Саккара: тайные иероглифы пирамид. **23.45, 0.30** Восход Османской империи. **2.50, 3.40** Монархи: забытые письма. **4.25** Музейные тайны. **5.10** Даты, вошедшие в историю. **5.40** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.05, 3.35, 4.00** Постыдные проблемы питомцев. **6.30, 7.20, 8.10, 8.55, 9.45, 10.35, 11.25, 12.10, 4.25** Подработка в дикой глуши. **13.00, 13.50** Загадочная планета. **14.40** Законы Серенгети. **15.35, 16.25, 17.15, 18.10, 1.35** Выживание в дикой природе. **19.00, 19.45, 20.35** Ветеринар из Йоркшира. **21.20, 22.15, 23.05** Необъяснимая Земля. **0.00** Невероятные встречи с животными. **0.45** Мутации погоды. **2.25** В зоопарке Таронга. **3.10** Спасение диких медведей. **5.15** Опасные исполины.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Игры разума. **6.45, 7.40** Авто-SOS 7. **8.25** Расследование авиакатастроф. **9.15, 10.05** Машины:Разобрать и продать. **11.00, 11.45, 12.35** Исследователь 2. **13.25, 14.15** Панорама 360° Объект всемирного наследия. **15.05, 15.55, 16.45, 17.40** История о нас. **18.30, 19.20, 3.20** Расследования авиакатастроф. **20.10, 23.30** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.00, 21.50** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **22.40** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **0.15, 1.05** В погоне за НЛО. **1.50, 2.35** Прорыв. **4.05, 4.50** Эвакуация Земли. **5.35** Зона строительства.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.00, 18.00, 22.15, 2.05** Безграничная рыбалка. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.40, 13.40, 14.30, 15.30, 17.25, 18.30, 19.35, 20.35, 21.40, 23.30, 0.35, 1.35, 2.35, 3.30, 4.35, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.45, 9.50, 10.45, 11.50, 12.55, 14.45, 15.50, 16.40, 17.40, 18.45, 19.50, 20.50, 22.00, 22.45, 23.50, 0.50, 1.50, 2.50, 3.45, 4.50, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **7.00, 9.05, 11.05, 12.05, 13.10, 15.00, 16.05, 16.55, 20.05, 21.10, 23.00, 0.05, 1.05, 3.05, 4.00, 5.05** Морская охота. **8.00** На рыбалку с охотой. **19.00** Поехали на рыбалку!

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.20** Прогулка по саду. **6.35 6.35 6.35, 10.30 10.30 10.30, 14.25 14.25 14.25, 18.35 18.35 18.35, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.50, 22.50, 3.05** Готовим на Майорке. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.35, 19.40, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.10, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.30, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.45, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Домик в Америке. **9.25, 13.25, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Безопасность. **12.55** Старинные русские усадьбы. **2.00** Да здравствует мыло душистое!

# нядзеля, 18 ліпеня

## Беларусь 1

**6.10** Х/ф **«ТЕНЬ ЗВЕЗДЫ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«ОТЕЛЬ «ФЕНИКС 2».**

**14.30** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.10** Х/ф **«БЕСТСЕЛЛЕР ПО ЛЮБВИ».**

**18.00** Гала-концерт мастеров искусств Беларуси «Крок by крок».

**21.00** Главный эфир.

**21.50** «Славянский базар в Витебске». Видеодневник.

**22.00** XXX Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Торжественное закрытие с выступлением участников международного конкурса исполнителей эстрадной песни «Витебск-2021». День второй: «Славянский хит».

**1.00** Навіны надвор'я.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.35** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**10.55** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.55** Фильм-биография «Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее».

**13.50** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.45** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.40** Х/ф **«СТРАННАЯ ЖИЗНЬ ТИМОТИ ГРИНА».**

**20.05** «Орел и Решка. Перезагрузка Америка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«ПОД СОЛНЦЕМ ТОСКАНЫ».**

**23.35** «Когда мы дома 2». Скетчком.

## Беларусь 3

**7.15** «Царевна-лягушка». Мультфільм.

**7.55** «Святыні Беларусі».

**8.20, 14.40** Навіны культуры.

**8.40, 16.40** «Каралева бензакалонкі». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Багатая бонда.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**12.25** «Па сямейных абставінах». Мастацкі фільм [СТ].

**15.00** «Славянскі базар у Віцебску-2021». XIX Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2021». Дзень другі. Прамая трансляцыя.

**18.00** «Славянскі базар у Віцебску-2021». XIX Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2021». Цырымонія ўзнагароджання і гала-канцэрт. Прамая трансляцыя.

**20.15** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** XXX Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Саюзная дзяржава запрашае...

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** ОНТ представляет: «Утро вечера мудренее».

**10.00** Х/ф **«БЕЛАЯ НОЧЬ, НЕЖНАЯ НОЧЬ...».**

**11.50** Т/с **«ЛЮБОВЬ В РОЗЫСКЕ».**

**15.20** Премьера. Международный музыкальный фестиваль «Белые ночи Санкт Петербурга». «Григорий Лепс собирает друзей».

**16.20** Международный музыкальный фестиваль «Белые ночи Санкт Петербурга». «Григорий Лепс собирает друзей» Продолжение.

**17.20** «Григорий Лепс. По наклонной вверх».

**18.15** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Тебя ждут дома».

**21.30** «Что? Где? Когда?». Летняя серия игр. Финал.

**22.55** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.15** Юбилей группы «Цветы» в Кремле.

## СТВ

**6.35, 23.25** Т/с **«ТУРИСТЫ».**

**8.10** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 21.05** Документальный спецпроект.

**12.35, 13.40, 16.40** Т/с **«КАРПОВ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.55** «Засекреченные списки».

**0.55** «Секреты древних красавиц».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

**5.30** Мультфильмы.

**8.50** «Рожденные в СССР». Союзмультфильму-85.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«САДКО».**

**12.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**

**14.05, 16.15** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПРИНЦА ФЛОРИЗЕЛЯ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**19.40** Х/ф **«КРАСОТКИ».**

**21.30** Х/ф **«КОКО ДО ШАНЕЛЬ».**

**1.00** XXX Международный конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск – 2021».

**2.40** Т/с **«АННА ГЕРМАН».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.25** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «Города Беларуси».

**8.45** Один день.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.15, 16.20** «Следствие вели...».

**19.35** Х/ф **«ОТДЕЛЬНОЕ ПОРУЧЕНИЕ».**

**21.25** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**22.00** «Основано на реальных событиях» 4 с.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«СЛАДКОЕ ПРОЩАНИЕ ВЕРЫ».**

**9.10** Х/ф **«ЦЕНА ЛЮБВИ».**

**12.45** «Сто к одному».

**13.35** «Большая переделка».

**14.40** «Парад юмора».

**16.30** Х/ф **«ХРАНИ ТЕБЯ ЛЮБОВЬ МОЯ».**

**20.00** ВЕСТИ.

**21.20** Х/ф **«ДУЭЛЬ».**

**23.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьёвым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 0.50** Принцесса-невеста. **6.35** Ловушка для родителей. **8.40** Без тормозов. **10.10** Оптом дешевле. **11.55** Оптом дешевле 2. **13.30** Спайдервик: Хроники. **15.10, 2.25** Белоснежка и охотник. **17.20** Страшно красив. **19.00** Дневник памяти. **21.05** Жена путешественника во времени. **22.55** Клятва.

### TV1000 ACTION

**5.30** Васаби. **7.05, 2.35** Мара. Пожиратель снов. **8.40** Монстры. **10.20** Человек-мотылёк. **12.20** Другой мир. **14.20** Другой мир 2: Эволюция. **16.05** Другой мир: Восстание ликанов. **17.35** Другой мир: Пробуждение. **19.00** Блэйд. **21.00** Блэйд 2. **22.55** Блэйд: Троица. **0.40** Мгла. **4.05** Континуум.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.45** Высоцкий. Спасибо, что живой. **8.00** Затмение. **9.25** Дикая Лига. **11.20** Три богатыря: Ход конём. **12.35** Три богатыря и Морской царь. **13.55** Три богатыря и принцесса Египта. **15.10** Три богатыря. Наследница престола. **16.40** Конь Юлий и большие скачки. **18.05** Один вдох. **19.50** На острие. **22.00** Белый снег. **0.10** Лёд. **2.05** Лёд 2. **4.15** Кольская сверхглубокая.

### ТВ3

**6.00** Коллекция Беларусьфильма. **7.45** «Налегке». **8.20** Коллекция Беларусьфильма: «Шляхтич Завальня». **10.10, 22.15** «Смотри сам». **10.25** «Спасите, я не умею готовить!». **11.20** Т/с **«УЧАСТОК ЛЕЙТЕНАНТА КАЧУРЫ». 15.35** Х/ф **«СЕЗОН ОХОТЫ 3». 17.00** Т/с **«АВАРИЯ». 21.10, 5.10** «Дневник экстрасенса». **22.30** Большое кино: «К звездам». **0.45** «Грань». **2.15** «Викинги». **3.40** «Нечисть». **4.30** «Это случается только с другими».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПОДРУГА БАНКИРА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПО ИМЕНИ БАРОН». 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2 : КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ». 3.15** Х/ф **«С ВЕЩАМИ НА ВЫЛЕТ!». 4.50** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ НА УДАЧУ». 6.45** Х/ф **«КАБЕЛЬЩИК». 8.35** Х/ф **«ХОЛОСТЯЧКИ». 10.10** Х/ф **«САМКА». 11.40** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ». 13.35** Х/ф **«МАРЛИ И Я». 15.50** Х/ф **«ГОЛАЯ ПРАВДА». 17.35** Х/ф **«ЕСЛИ СВЕКРОВЬ – МОНСТР...». 19.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА». 21.55** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 23.30** Х/ф **«ГОРОСКОП НА УДАЧУ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05, 2.05, 3.05, 4.05, 5.05, 6.05, 7.05** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ». 8.05, 9.05, 10.00, 11.00** Т/с **«СЕРДЦЕ АНГЕЛА». 11.55, 12.55, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05** Т/с **«ПАЛАЧ». 22.00, 23.00** Т/с **«ФАНТАЗИЯ БЕЛЫХ НОЧЕЙ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 1.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.50** Х/ф **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ». 14.45** Т/с **«МАМОЧКИ». 17.10** Х/ф **«МУЖЧИНА НАРАСХВАТ». 19.10** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **3.25** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 19.05** На пути к Токио-2020. **7.30** Легкая атлетика. Чемпионат Европы среди юниоров. Таллин. **8.35, 12.35** Теннис. WTA. **10.40** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 16-й тур. ФК Гомель – Рух (Брест). **14.40** Легкая атлетика. Чемпионат Европы среди юниоров. Таллин. Вечерняя сессия. **19.35** Вот это спорт! **19.55** На пути к ЧМ-2022. **20.25** Спортцентр. **20.35** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 16-й тур. ФК Витебск – Неман (Гродно). В перерыве Спортцентр. **22.35** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 16-й тур. Обзор. **23.20** Теннис. WTA. Будапешт. Финал.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 6.30, 12.00** Мотогонки на выносливость. «12 часов Эшторила». **1.00, 4.00, 9.30, 14.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 20-й этап. **8.30, 23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Рио-2016. **17.10** Велоспорт. «Тур де Франс». 21-й этап. Прямая трансляция. **21.00, 22.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Висла. HS 134. Мужчины.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.30, 12.35, 16.50, 20.45, 0.10, 4.40** От Кавказа до Аравии. **7.00, 17.25** Это Родина твоя. **7.55, 10.25, 13.05, 16.35, 19.05, 23.35, 1.35, 3.55** Итоговые новости. **8.15** Возвращение легенды. **8.45** Испытание на прочность. **9.15, 11.00, 18.25** Всё включено. **9.50** Комплектация. **10.40** Автолайф. **10.50** Наезд! **11.20, 19.25, 23.00, 3.20** Всё о мото. **11.55, 20.00, 22.40, 23.50, 4.10** Тест с дядей Ваней. **13.25, 0.45** Байки про байки. **14.00, 1.20** Мото дуэль. **14.20, 1.50** Тест на «Драйве». **15.30, 5.40** Эконом-тест. **15.50, 21.50** Советы юриста. **21.20, 5.10** Автовинтаж. **2.55** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.35, 9.25, 10.20** Речные чудовища. **11.10** Винтажные электромобили. **12.00** Железная дорога во льдах. **12.50, 13.35, 14.25, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55, 20.40, 21.30, 22.15, 23.05, 23.50** Ледовые викинги. **0.40, 1.05, 1.25, 1.50, 2.15, 2.40, 3.05, 3.30, 3.55, 4.20, 4.45, 5.10, 5.35** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.00, 6.45, 7.30** Тайны музеев. **8.15, 9.10, 10.05, 11.00, 1.25, 2.15** Последний поход викингов. **11.55** Забытая армия викингов. **12.45, 13.35** Вторая мировая война в цифрах. **14.25** Древние суперстроения. **15.20, 21.00** Империя с Майклом Портилло. **16.25, 22.05** Осада Мальты: воины Господа. **17.20, 23.00** Разгадка тайны пирамид. **18.10, 19.05** Николай и Александра: последние монархи России. **20.00** Тайный Версаль Марии-Антуанетты. **23.50, 0.40** Восход Османской империи. **3.05** Монархи: забытые письма. **3.55** Титаник: истории из глубины. **4.40** Музейные тайны. **5.20** Даты, вошедшие в историю.

### NATURE

**6.00, 3.55** Постыдные проблемы питомцев. **6.25, 11.50** Законы Серенгети. **7.20, 8.15** Раскопки на полюсах. **9.15, 10.10** Когда киты ходили по суше. **11.05** Нераскрытое дело динозавра. **12.45** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **13.35** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **14.30** Дикая граница Америки: северные холода. **15.15, 16.10, 17.10, 18.05** Дикая Канада. **19.00** Компания «Чарли Би». **20.00, 20.50, 21.40, 22.35, 23.25** Речные чудовища. **0.15** Невероятные встречи с животными. **1.05** Мутации погоды. **1.50** Выживание в дикой природе. **2.45** В зоопарке Таронга. **3.30** Спасение диких медведей. **4.20** Подработка в дикой глуши. **5.10** Опасные исполины.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.15, 6.40** Зона строительства. **7.05, 7.55, 9.35** Экстремальный экспресс. **8.45** Расследование авиакатастроф. **10.20, 11.10** Остров бунтарей. **12.00, 12.50** Аляска: Новое Поколение. **13.35, 14.25** КОНТРАБАНДА С МАРИАННОЙ ВАН ЗЕЛЛЕР. **15.10, 16.00, 16.50, 17.40** Космос: возможные миры. **18.30, 19.20, 21.00, 21.50** Затерянные сокровища Египта. **20.10** Египет с величайшим исследователем в мире. **22.40, 1.15** Инстинкт выживания. **23.35** Битва коллекционеров. **0.00** Необычные промыслы. **0.50** Научные глупости. **2.00, 2.45** Авто – SOS. **3.30** Расследования авиакатастроф. **4.15, 5.00** Короли рыбалки 1. **5.40** Научные глупости 7.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.05, 2.05** Охота и рыбалка в. **6.30, 22.35, 2.35** Егерский кордон. **7.00, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.25, 11.20, 15.25, 19.35, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 0.10, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 12.20, 16.25, 20.35, 0.40, 4.35** Мир охотника. **9.00, 12.50, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.30, 5.35** Рыбалка 360. **10.00, 13.55, 18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **10.30** Следопыт. **10.50** Блондинка на охоте. **11.50** Битва профессионалов. **13.25, 17.30, 21.40** Рыболовная школа для взрослых. **14.25** В Индийском океане. **14.55, 19.05** Охоты и охотники. **15.05, 19.15** Охотничье оружие. Вопросы эксперту. **15.55, 20.05** Давай зарубимся! **16.10, 20.15** Рыбалка сегодня. **18.30** Поехали на рыбалку! **21.05** На рыбалку с охотой. **1.40** Рыбалка сегодня XL.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** Прогулка по саду. **6.35 6.35 6.35, 10.30 10.30 10.30, 14.25 14.25 14.25, 18.35 18.35 18.35, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.50, 22.50, 3.05** Готовим на Майорке. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.35, 19.40, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.10, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.30, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.45, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Домик в Америке. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **2.00** Да здравствует мыло душистое!

# Адкуль у Кангрэсе ЗША подпісы першакласнікаў Вілейшчыны 1926 года

ВІЛЕЙКА

**Некаторы час я публікую ў інтэрнэце аркушы з подпісамі дзяцей з пачатковых школ Вілейскага раёна 1926 года. Шмат людзей пытаюцца: што гэта за ідэя? Час праясніць таямніцу і расказаць усю гісторыю.**

### Як піяніст з Польшчы займеў давер прэзідэнта ЗША

Уся кампанія была лозунгам «Дэкларацыя аб захапленні і сяброўстве з амерыканскім народам». Што стаіць за гэтым лозунгам? І чаму менавіта амерыканскі народ? Пасля пачатку Першай сусветнай вайны з'явіўся шанец адрадзіць незалежную польскую дзяржаву пасля 123 гадоў падзелаў.

Мы ведаем, што Пілсудскі з'явіўся са сваімі легіёнамі, але недастаткова было думаць пра ваенную барацьбу за незалежнасць. У канцы вайны на Парыжскай мірнай канферэнцыі прынялі ўсе асноўныя палітычныя рашэнні. Была таксама польская дэлегацыя, якая растлумачыла, чаму Польшча павінна стаць незалежнай. Але на той момант Польшча не мела моцных саюзнікаў у Еўропе. Вялікая палітыка Англіі не прадугледжвала незалежнай Польшчы, бо яна больш падтрымлівала бальшавіцкую Расію, аддаючы перавагу захаванню панавання Германіі. Вялікая палітыка часта складаецца з дробных элементаў, якія могуць паўплываць на канчатковыя рашэнні. І побач з вялікай палітыкай былі людзі, якія маглі рабіць незвычайныя рэчы.

Адной з такіх фігур быў вядомы польскі піяніст і кампазітар **Ігнацы Ян Падарэўскі**. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны ён пачаў весці шырокую дыпламатычную дзейнасць для Польшчы і палякаў, выкарыстоўваючы сваю папулярнасць у Заходняй Еўропе. У 1915 годзе ездзіў на канцэрты ў ЗША, перад кожным выступленнем расказваў пра ідэю польскай незалежнасці. За кароткі час яму ўдалося заваяваць павагу і сяброўства прэзідэнта **Вудра Вільсана**. Пад яго непасрэдным уплывам прэзідэнт Вільсан дадаў у свой ультыматум, які быў абумоўлены падпісаннем ЗША Версальскага дагавора, знакаміты 13 пункт. Дзякуючы яму дагавор уключаў стварэнне незалежнай польскай дзяржавы.

### Што значыць асоба Касцюшкі ў ЗША. І як Штаты дапамагалі Польшчы

У Злучаных Штатах легенда пра двух вялікіх польскіх генералаў – **Тадэвуша Касцюшку** і **Казіміра Пулаўскага** – была яшчэ жывая. Абодва сталі героямі ў барацьбе за незалежнасць ЗША. Помнік Касцюшку і сёння стаіць на тэрыторыі ваеннай акадэміі ў мясцовасці Вест-Пойнт у штаце Нью-Ёрк. Перад паступленнем у акадэмію навабранцаў вітаюць перад гэтым помнікам.

Неўзабаве пасля вайны ў духу салідарнасці з польскай нацыяй і іх барацьбы за адраджэнне дзяржавы ў ЗША стварылі камітэты дапамогі палякам у наступствах вайны. Акцыя па арганізацыі школ і сістэмы адукацыі польскіх медсясцёр, арганізаваная за кошт сродкаў Амерыканскага Чырвонага Крыжа, увайшла ў гісторыю. Яшчэ ёсць звесткі пра амерыканскіх лётчыкаў, якія добраахвотна паўдзельнічалі ў польска-бальшавіцкай вайне, змагаючыся на захопленых самалётах. Шмат з іх загінула на польскай зямлі.

У першыя гады пабудовы новай дзяржавы Польшча карысталася шырокай фінансавай і арганізацыйнай дапамогай Амерыкі. Велізарная польская эміграцкая супольнасць давала сродкі на аднаўленне краіны.

### «Дэкларацыя» у 111 тамоў як сімвал сяброўства і захаплення амерыканцамі

Наколькі палякі былі ўдзячныя амерыканцам за дапамогу, прадэманстравала 150-годдзе абвяшчэння незалежнасці ЗША. Гэты юбілей быў 4 ліпеня 1926 года. Нягледзячы на палітычны і фінансавы крызіс у Польшчы, грамадства Польшчы было гатовае калектыўна аддаць належнае Амерыцы. Ад красавіка да ліпеня 1926 года па ўсёй тагачаснай Польшчы сабралі 5,5 мільёна подпісаў за «Дэкларацыю захаплення і сяброўства з амерыканскім народам».



SZKOLNICTWO POLSKIE W HOŁDZIE NARODOWI AMERYKAŃSKIEMU NA PAMIĄTKĘ 150-LECIA NIEPODLEGŁOŚCI STANÓW ZJEDNOCZONYCH

| | | | |
|---|---|---|---|
| SCHOOL SZKOŁA | powszechna V oddziałowa | TRUSTEE OPIEKUN | E. Kumańska, S. Rodziewiczówna |
| LOCALITY MIEJSCOWOŚĆ | Ilja | PRINCIPAL KIEROWNIK | K. Ostrowska |
| DISTRICT POWIAT | Wilejski | INSPECTOR INSPEKTOR | [illegible] |

Wiktor Apanasionek. Catko Akselrod. Sora Akselrod. Eljasz Homotko. Marja Rudnicka. Wiera Ambrozewicz Masia Lewkowa. Anna Brylówna. Marja Olszewska Anna Kaźura, Ester Rywkin, Basia Kacowicz. Ryszka Kopełowicz. Jan Rudnicki Nina Juszko Mikołaj Kaduszkin. Konstanty Marouski. Gita Chajkin. Helena Tocko Rachela Kopełowicz. Tekla Sielawko Olimpja Miechowicz Olga Miechowicz Itka Ryjer Emilija Budajówna. Elka Kopiełowicz. Natalja Kaźura. Eljasz Kondracionek. Nadzieja Wojciechowska. Anna Filipowiczówna. Nachama Gordon. Jadwiga Tocko Cywa Chajkin. Kopel Zavecer. Mowsza Zawodnik. Fania Kacowicz. Katarzyna Rudzicka. Maryśka Wojciechowiczówna. H. Skorobohaty. H. Kaźurówna. M. Burkiewicz. M. Wojciechowicz. B. Rudnicki. E. Rudnicka. B. Olszewska. Chaja Akselrod. Michał Kondrationok Józef Laudański Marja Buhtakówna. A. Szatucha. Ch. Kopielowicz. A. Brojdo. Fajba Ryjer. Ch. Dobzen. S. Gordon. E. Olszewska. K. Dubowik. A. Wojciechowski. B. Brunsztejn. L. Gosman. Ch. Dobrzycka. Liba Lewkowa. Ch. Riwkin. Olga Sak. T. Ryjer. G. Grinblat. M. Danilówna. Chaja Chalinska. Z. Kumowicz. O. Kondracionek. S. Zawodnik. K. Olszyk. M. Ułasewicz. Rubin Kopelowicz.

**Адзін з аркушаў, падпісаны для ЗША вучнямі пачатковай школы ў Ілы.**

Дэлегацыя з Польшчы прывезла ў Вашынгтон 111 тамоў з больш чым 30 тысячамі аркушаў. На іх – подпісы ад вышэйшых дзяржаўных органаў улады праз розныя дзяржаўныя, сацыяльныя інстытуты да самых маленькіх дзяцей, якія ўмелі пісаць – вучняў пачатковых школ з усёй Польшчы. Тамы былі аздоблены графікай выдатных польскіх мастакоў.

Арыгіналы подпісаў, якія захоўваліся ў бібліятэцы Кангрэса ЗША, з часам зніклі з памяці палякаў і дыпламатычных адносін дзвюх краін. Гэтыя 5,5 мільёна грамадзян – палякі, а таксама яўрэі, украінцы і беларусы – складалі ў 1926 годзе амаль 20 працэнтаў насельніцтва краіны. У многіх з нас ёсць продкі сярод падпісаных.

### Праект «Клас 1926»

Уявіце сабе першы год пачатковай школы ў Польшчы ў 1926 годзе. Сямігадовыя дзеці старанна пішуць свае імёны на дэкаратыўнай паштоўцы з вялікім загалоўкам: «Мы, польскія вучні, выказваем сваё захапленне ЗША, 150-годдзем вашай незалежнасці». Гэтыя дзеці, верагодна, не разумелі сэнсу паведамлення. Разумелі толькі тое, што ім трэба старанна пісаць свае імёны, не пакідаючы пасля сябе клякс. Кнігі «Дэкларацыі» амаль сем дзесяцігоддзяў заставаліся забытымі. У сярэдзіне 1990-х іх адкрылі супрацоўнікі бібліятэкі Кангрэса ЗША, якія мелі польскія карані.

Дзякуючы намаганням польскай бібліятэкі ў Вашынгтоне ў 2015 годзе запусцілі праект «Клас 1926», мэта якога заключалася ў алічбоўцы ўсіх тамоў Дэкларацыі. Праект завяршылі ў 2017.

### Як да «Дэкларацыі» далучылася Вілейшчына

У Вілейскім павеце, дзе сабралі некалькі тысяч подпісаў, у акцыі ўдзельнічала 98 пачатковых школ. Кожная, нават самая маленькая сельская школа атрымала спецыяльны аркуш. Подпісы дзяцей былі зафіксаваныя ў гісторыі. Асабіста я знайшоў трох чалавек з сям'і, якія вучыліся ў гімназіі ў Вілейцы. Убачыць іх подпіс – дзіўны досвед. Для мяне гэта частка сямейнай гісторыі.

**Марэк ЛАМПРЭХТ, Варшава.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**9 ЛІПЕНЯ**

**1946.** У Смаргоні нарадзіўся **Уладзімір Някляеў**, беларускі паэт, празаік і грамадска-палітычны дзеяч. Дзіцячыя гады правёў у Крэве. Лаўрэат шэрагу ўзнагарод за літаратурную дзейнасць. Перакладаецца на мовы свету.

**1955.** Адкрылася Мінская дзіцячая чыгунка.

**10 ЛІПЕНЯ**

**1994. Аляксандр Лукашэнка** абраны Прэзідэнтам Беларусі.

**11 ЛІПЕНЯ**

**1885.** У вёсцы Нецькі Мядзельскага раёна нарадзіўся **Францішак Рамейка**, беларускі каталіцкі святар-адраджэнец, грамадскі дзеяч. Пераследаваўся за сваю беларускую дзейнасць. Застрэліўся ў 1931 годзе ў Вільні. Пахаваны на Бернардзінскіх могілках.

**12 ЛІПЕНЯ**

**1920.** Паводле дагавора РСФСР-Літва РСФСР прызнала Літоўскую рэспубліку і яе правы на тэрыторыю з гарадамі Гродна, Шчучын, Ашмяны, Смаргонь, Браслаў, Ліда, Паставы. У ацэнках сучаснай беларускай гістарыяграфіі дагавор – ваенна-палітычны акт савецкага кіраўніцтва, якое не лічылася з інтарэсамі беларускага народа.

**13 ЛІПЕНЯ**

**1508.** Бітва пад Оршай. Бітва войска Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага супраць войска Маскоўскага княства. У выніку маскоўскія войскі былі адкінутыя пад Бранск.

**14 ЛІПЕНЯ**

**1995.** Чачэнскія баевікі на чале з **Шамілем Басаевым** захапілі больш за 1600 закладнікаў у бальніцы горада Будзёнаўска.

**15 ЛІПЕНЯ**

**1876.** Нарадзілася **Алаіза Пашкевіч** (Цётка), беларуская паэтэса, грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст. Памерла ў 1916 годзе. У Маладзечне імя Алаізы Пашкевіч носіць вуліца.



**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Пра «стукнутых» паэтаў, два дні каханне, творчасць і Крэва

## Пагутарылі з Уладзімірам Някляевым з нагоды 75-годдзя

СМАРГОНЬ

**Аказваецца, паэтычным талентам Уладзімір Някляеў «абавязаны» крэўскаму дзядзьку Лявону, а на першы верш майго суразмоўцу натхніла паварыха ў летніку.**

Някляеў мог бы стаць музыкантам, але не давёз дакументы ў музвучылішча. У 2010-м паэт балатаваўся ў прэзідэнты, бо лічыў гэта адзінай магчымасцю ўратаваць беларускую мову і культуру.

Чытайце наша інтэрв'ю з пісьменнікам-земляком.




Уладзімір Някляеў у Маладзечне. Аўтографы для прыхільнікаў творчасці.

### Пра карані і дзяцінства

**– З якога ўзросту сябе памятаеце?**

– Недзе з двух гадоў. Дзядзька **Лявон**, брат маці, вярнуўся з войска, падхапіў мяне на рукі, падкінуў – і, паколькі ўжо добра адзначыў вяртанне, забыўся злавіць. Я гакнуўся аб парожны камень дзедавай хаты – і на камені гэтым усвядоміў, што жыву на белым свеце. А дзядзька пасля казаў, што каб не ён, не стаў бы я паэтам. Бо калі я стукнуўся аб камень, мазгі сталі на тое месца, на якім мусяць быць у паэта. Маўляў, усе паэты «стукнутыя».

**– Раскажыце гісторыю з двума днямі свайго нараджэння.**

– Па версіі маці, я нарадзіўся 9 ліпеня. Па версіі бацькі, – 11-га. Доўгі час я думаў, што ён два дні гуляў, а пасля прыгадаў, з якой нагоды. І запісаў мяне тым днём, у які пра сына ўспомніў. Але пазней я сустрэў акушэра, які прымаў роды. Ён сказаў, што прывезлі маці ў радзільню 9-га, але нарадзіла яна 11-га. Два дні мучылася, бо надта галава ў мяне была вялікая. Дык я ўжо й не ведаю, як яно ўсё насамрэч было, таму святкую абодва дні.

**– У дзяцінстве вы займаліся музыкай. Можа, мы страцілі Някляева-музыканта?**

– Музыкантам мяне хацела бачыць маці. Бацька хацеў, каб я стаў ветэрынарам. Але маці ўгаварыла яго прадаць карову Чарнуху і купіць мне акардэон. З таго і пачалася музыка. Іграў я ў Смаргонскім аркестры народных інструментаў імя Агінскага. Іграў на цымбалах, на мандаліне, кантрабасе. Кіраўнік аркестра **Аляксандр Анісімавіч Дзяруга** палічыў, што з рытмам у мяне лепш, чым са слыхам. Пасля дзявятага класа па яго рэкамендацыі я павёз дакументы ў Маладзечанскую музвучэльню. Але праехаў Маладзечна і падаў дакументы ў Мінскі электратэхнікум. І ўсё ж заняткі музыкай не прайшлі дарэмна, я напісаў шмат вершаў, якія сталі песнямі.

**– Вы гадаваліся ў старажытным Крэве, пад сценамі замка. Як гэта паўплывала на вашу асобу?**

– Крэўская школа, куды я пайшоў у першы клас, стаяла пад сцяной Крэўскага замка. Школа была маленькая, але побач з ёй у вокнах віднелася вялікая гісторыя. Вось гэта вялікая гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, магутнай еўрапейскай краіны, якую стваралі мае продкі па маці, дзяржава, асновай якой была цяперашняя Беларусь, і фарміравала мяне як асобу.

**– Раскажыце пра вашых бацькоў. Да каго з іх вы больш падобныя?**

– Маці мая, **Анастасія Іванаўна Магер**, народжаная ў Крэве, стварала ўва мне паэта.

Чытала беларускія, польскія, рускія кнігі, расказвала казкі, паданні. Бацька, **Пракоп Міхайлавіч Някляеў**, занесены віхурай вайны з ракі Волгі на раку Крэўлянку, ствараў ува мне мужчыну. Вучыў страляць, трываць боль і крыўды, стаяць за сябе, за свае перакананні. Усё дзяцінства і юнацтва – гэты ўплывы маці. Сталасць – уплывы бацькі.

Вось адзін выпадак у маіх з ім адносінах. Мне было дзевяць, калі я знайшоў кашалёк пад акенцам касы на чыгуначным вакзале. Трох рублёў, што ў ім былі, якраз не хапала на тэлескоп, грошы на які я ўжо амаль два гады збіраў капейку да капейкі. Я не аддаў кашалёк касірцы, каб вярнула таму, хто згубіў. Але і ў краму па тэлескоп адразу не пабег, бо ўчора быў там і сказаў, што пакуль тры рублі не стае. Кашалёк быў жаночы, з шарыкавай зашчапкай. Я ўяўляў, як тая жанчына, якая яго згубіла, шкадуе аб прапажы. Можа, плача, бо ездзіла на кірмаш, які быў побач з вакзалам, прадаць тавар, масла ці яйкі, а выйшла, што толькі на дарогу патрацілася. А, магчыма, яна падумала, што кашалёк скралі, напісала заяву ў міліцыю, якая цяпер кашалёк шукае, і я сто разоў яго перахоўваў. Закідваў сенам у пуні, засоўваў пад цэбры ў склепе, закопваў пад масцікам на левым беразе рэчкі, ноччу ўставаў і закопваў на правым. Тады ўрэшце я пайшоў на вакзал, падкінуў кашалёк туды, дзе знайшоў, пад акенца касы, з якой высунула галаву касірка: «Ты што тут падкінуў?» – і мяне звінавацілі, што кашалёк скраў. А жанчына, якая згубіла, сказала, што ў ім было не тры рублі, а 30. Злодзей! Нічога не ўкраўшы, злодзей! З гэтым нельга жыць! Знайшоўшы ў пуні вяроўку, залез я на драбіны, накінуў вяроўку на бэльку, доўга завязваў вузел на пятлі, бо не ведаў, як, ды яшчэ і рукі калаціліся, а калі завязаў і надзеў пятлю на шыю, зарыпелі дзверы – і ў пуню ўвайшоў бацька. Я скочыў з драбінаў, забыўшыся, што канец вяроўкі, накінутай на бэльку, не прывязаў – і паляцеў на рукі бацькі.

«Давай дамовімся так, – вынес мяне бацька з пуні ў двор. – Я нічога не кажу пра гэта маці, а ты, калі зноў такое надумаеш, скажаш пра гэта мне. Я пісталет дам, з ім самагубства будзе выглядаць больш па-мужчынску, чым з вяроўкай».

Доўгі час маці ўва мне было болей, чым бацькі. Натура яго, чалавека, які прайшоў вайну, была даволі суворая. Мы цяжка збліжаліся. Але з гадамі я зразумеў, што даў ён не менш, чым маці. Адчуў я гэта асабліва тады, калі выпалі на долю сякія-такія выпрабаванні, і тое ў характары, што было ўзятае ад бацькі, дапамагло іх вытрываць.

### Пра творчасць

**– Памятаеце свой першы верш? Што тады натхніла?**

– Мяне не задавальняла жыццё, якое бачыў я. Было яно грубае і не такое цікавае, як у кнігах, якія чытаў. Таму з маленства прыдумляў фантастычныя гісторыі, каб жыццё выглядала больш цікавым. І назаўсёды я застануся ўдзячны маёй настаўніцы ў пачатковых класах смаргонскай школы №1 **Паліне Несцераўне**, якая мае гісторыі не толькі слухала, але і казала маім аднакласнікам, якія з тых фантастычных гісторый смяяліся, што верыць у іх. Гісторыі тыя палюбіла слухаць і паварыха ў піянерскім лагеры. Таму хітравала, каб мяне часцей прызначалі дзяжурыць на кухні. Бульбу скрэбці і ўсялякія гісторыі ёй расказваць. Вось яна і натхніла на верш:

*Наша паварыха*
*Даўганосая гусіха.*
*Лятала, упала*
*І нос паламала.*

Паварыха была насамрэч даўганосая. І ўсе яе гэтым вершыкам дражнілі. А я ўбачыў, як яна скрэбла бульбу і плакала. І мне стала так сорамна, што сам заплакаў. З таго часу нічога, што можа абразіць, пакрыўдзіць чалавека, не пішу.

**– Ваш найлепшы твор ужо напісаны?**

– Ніхто з тых, хто піша, не ведае, што з напісанага ім, лепшае. Можа: «Наша паварыха даўганосая гусіха...»

**– Ваша творчасць адзначаная шматлікімі прэміямі: ад Дзяржаўнай і да прэміі Францішка Аляхновіча. Для вас гэта важна?**

– Некалі ў паэме «Наскрозь» былі ў мяне такія радкі:

*...Калі называюць*
*паэтам,*
*І пішуць у кнігах:*
*«ПАЭТ», –*
*Няёмка, нібыта*
*ўвайшоў без білета*
*Туды, дзе спытаюць*
*білет.*

Раней, калі трэба было даводзіць, даказваць, што ты не выпадкова ў паэзіі, прэміі ды іншыя адзнакі былі не лішнія. Цяпер яны без патрэбы. І не толькі таму, што не трэба ўжо нічога і нікому даказваць. Змянілася матывацыя творчасці. Калі тады пісалася для кагосьці, цяпер – для самога сябе. Проста таму, што ты не можаш не пісаць. І напісаныя, а тым больш прадыктаваныя з нябёсаў верш, паэма – гэта твая прэмія і ёсць.

**– У час жыцця і вучобы ў Маскве вы мусілі рабіць выбар: жыць у Расіі ці ў Беларусі, пісаць і выдаваць па-руску ці па-беларуску? Чаму абралі беларускае?**

– Складана і доўга тлумачыць... Коратка можна адказаць: абраў беларускае, бо беларус, але такі адказ няпоўны. Паўней пра гэта ў рамане «Гэй Бэн Гіном», які надрукаваны ў часопісе «Дзеяслоў» і павінны хутка выйсці асобнай кнігай. Каму цікава, можа прачытаць.

### Пра мовы

**– Якую мову вы чулі ў сваім крэўска-смаргонскім дзяцінстве?**

– Ніякай іншай, апроч беларускай. У Крэве жылі і палякі, і татары, і яўрэі, але ўсе яны размаўлялі па-беларуску. Ну, не на чыстай літаратурнай мове, але і не на трасянцы. Такая своеасаблівая была крэўская гаворка.

**– А як часта сёння вы пераходзіце на рускую ў жыцці і творчасці?**

– Бываюць такія абставіны. З мяне апошніх гадоў 20 робяць русафоба, але я не русафоб. Расія – радзіма майго бацькі, многіх маіх сяброў. І я не блытаю яе з Расіяй Пуціна.

У драматычнай паэме «Ягайла», надрукаванай у тым жа «Дзеяслове», маскоўскі князь Данскі размаўляе з вялікім князем літоўскім па-руску:

*Отныне целиком,*
*не как-то там отчасти*
*Вы поклоняетесь*
*Москве, как высшей*
*власти.*
*И только так.*
*И всем желаю счастья.*

Як яшчэ ён можа размаўляць?

**– У якім стане, на вашу думку, сёння ў Беларусі беларуская мова?**

– Гэта пытанне для мяне найважнейшае. Праз стан беларускай мовы, праз грэблівыя адносіны да яе ўлады я пайшоў з паэзіі ў палітыку. Каб стаць прэзідэнтам. Іншых сродкаў выправіць сітуацыю, ўратаваць мову ўжо не бачыў.

### Пра каханне і жанчын

**– Раскажыце пра першае каханне.**

– Яно звалася **Ліля**. І падарвалася на міне, якую згубіў, скраўшы яе на вайсковым складзе, каб глушыць рыбу, п'яны старшына. Мне дагэтуль балюча каханне тое ўспамінаць...

**– Як вы лічыце, вашай жонцы лёгка з вамі?**

– Пра гэта ў жонкі трэба пытацца. За яе магу сказаць: са мной ёй нялёгка. Бо ўсё было. І сума, і турма. Але яна ўсё стрывала. Кахаю яе не за тое, што стрывала. Не за тое нават, што пайшла яна некалі за мной па крыгаломнай рацэ.

# нараджэння,

Рызыкуючы і не азіраючыся. І так ідзе са мной па жыцці. Проста я кахаю яе, не разумеючы, як можна не кахаць? Дыхаю ёй. У кнізе «Знічы кахання» я прысвяціў ёй паэму «Калі мяне не стане»:

*Я так цябе кахаў –*
*да спапялення.*
*У турмах,*
*у катоўнях, у скляпеннях*
*За кратамі,*
*якія ўночы грыз,*
*Я падымаўся,*
*калі йшоў уніз,*
*Ні перад кім не падаў*
*на калені,*
*Бо я стаяў на іх*
*перад табой,*
*І не маліў я*
*літасці чужой,*
*Бо толькі да цябе*
*мае маленні.*

**– Ведаю, што вы ніколі не ўяўлялі побач з сабой жанчыну-пісьменніцу. Чаму?**

– Замест адказу яшчэ адзін урывак з новага, шмат у чым біяграфічнага рамана «Гэй Бэн Гіном»: «У літінстытуце нармальныя на аддзяленні паэзіі амаль не сустракаліся. Адна імпульсіўная паэтка, якая, убачыўшы Віктара з акна на чацвёртым паверсе літінстытуцкага інтэрната, раптам закрычала: «Хочаш, каб у імя нашага высокага кахання я ўніз скочыла?» – і калі ён абыякава, бо ніякага кахання, ні высокага, ні нізкага, не было, кіўнуў: «Скачы, калі хочаш...» – рынулася сторч галавой і жывая засталася, бо ненармальных Бог шкадуе».

Вось як з такімі натурамі ўжыцца?..

### Пра краіны і гарады

**– Маладзечна не чужы для вас горад. Якія ўспаміны звязаны з ім?**

– У Маладзечне бацькі купілі мне акардэон. І сюды вёз я, скончыўшы дзявяты клас, дакументы для паступлення ў музвучэльню. Але праехаў музыку. Праўда, не назаўсёды. У 1996-м, на маё 50-годдзе, быў у Маладзечне мой аўтарскі канцэрт з тэлетрансляцыяй на ўсю Беларусь. З песняй «Жыве Беларусь!», якая магла стаць дзяржаўным гімнам. Але не стала, бо дзяржава, якую бачылі людзі, што прыйшлі да ўлады ў 1994-м, была зусім не такой, якую бачыў я ці **Генадзь Карпенка**, з якім мы сябравалі і які спяваў на канцэрце разам з артыстамі «Жыве Беларусь».

**– Некалькі год вы вымушаны былі жыць у Польшчы і Фінляндыі. Што было самым няпростым у жыцці эмігранта?**

– Самае няпростае ў жыцці эмігранта – быць дома кімсьці, а ў замежжы стаць нікім. Пачаць жыццё з нуля. Гэта не кожнаму па сілах.

**– Чаму беларусам варта павучыцца ў палякаў і фінаў?**

– Быць беларусамі. Як фіны фінамі і палякі палякамі.

### Пра вучобу і працу

**– Прыгадваеце смаргонскую школу №1?**

– Нядаўна песню я напісаў. Вальс для дуэта. Вось урывак:

*Квітнее белы бэз*
*На вуліцах Смаргоні,*
*Над вечнаю Вяллёй*
*Лунае паланэз.*
*І ты на плечы мне*
*Кладзеш свае далоні,*
*І над табой і мной*
*Квітнее белы бэз.*

Гэта і ёсць успамін пра смаргонскую СШ №1.

**– А што вам дала вучоба ў літінстытуце ў Маскве?**

– Ведаеце, добра, што я раман «Гэй Бэн Гіном» напісаў. Там шмат адказаў на вашы пытанні. У тым ліку і на гэта: «Установа была прэстыжная, на аддзяленне паэзіі набіралі ўсяго 12 чалавек, а ў Савецкім Саюзе кожны пастух і бухгалтар вершы пісалі, так што даводзілася вытрымаць вялізны конкурс, каб даволі хутка зразумець, што ў інстытуце тым можна было і не вучыцца. Але, калі б не вучыўся, не хадзіў бы па кантрмарках, якія выдаваліся студэнтам літінстытута, ва ўсе маскоўскія тэатры, у адным з якіх, тэатры на Таганцы, і пазнаёміўся з паненкай у белай сукенцы з чырвоным пасам, якая назвалася Ганнай і сказала, што яна дачка Купалы».

Без літінстытута гэты раман я, можа, і не напісаў бы. І не таму, што пісаць не навучыўся б: проста гэта частка маёй біяграфіі. Дакладней, жыцця.

**– Дарэчы, пра раман. Вы казалі ў адным інтэрв'ю, што скончыўшы «Гэй Бэн Гіном», пачалі новы раман. Пра што ён?**

– Калі раман «Гэй Бэн Гіном» пра час Купалы, Сталіна, Брэжнева, то новы – пра наш час. Калі казаць сцісла, пра тое, як нам у нечалавечым часе заставацца людзьмі.

**– Вы працавалі радыёмеханікам і літсупрацоўнікам, былі рэдактарам на БТ і кіравалі культавым часопісам «Крыніца»... Якая праца вам падабалася найбольш?**

– Праца радыёмеханіка. На ёй я быў і на працы – і як бы вольны. Браў заяўкі на рамонт радыётэхнікі – і хадзіў па горадзе. Ніхто мяне не кантраляваў, у карак не гнаў. І цікава было. Ты ж у кожны дом нібы госцем прыходзіш. Выпадковым. А выпадковаму такое раскажуць, што свае ніколі не пачуюць.

### Пра палітыку

**– Чаму вы вырашылі ў 2010 годзе балатавацца ў прэзідэнты? Не шкадуеце?**

– Я ніколі не шкадую пра тое, што было ў мінулым. Па-першае, гэта марныя шкадаванні. Па-другое, у шкадаваннях сваіх мы сыходзім з таго, што ў мінулым магло быць лепш, чым было. Ну, каб мы зрабілі нешта не так, як зрабілі, а інакш. Але гэта не факт. Магло быць горш. Таму, як казаў герой майго рамана «Лабух»: «Калі ты дасюль жывы-здаровы са сваёй галавой на плячах, значыць, усё, што ты зрабіў раней, зроблена правільна».

Чаму я ў палітыку пайшоў? Ужо казаў пра гэта: праз катастрафічны стан нацыянальнай свядомасці, культуры, мовы... Вось глядзіце: сёння беларуса **Валадара Цурпанава**, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, адна з дзяржаўных моў якой – паводле Канстытуцыі – беларуская, вязня магілёўскай турмы №4, караюць карцарам за просьбу размаўляць з ім па-беларуску... Як мне, беларускаму паэту, такое трываць? Нішто болей так не рве мне сэрца, як знішчэнне мовы і ўсяго беларускага ў Беларусі. І толькі дзеля таго, каб не было здзеку з таго, што для мяне святое, я і пайшоў у палітыку.

**– Пасля выбараў 2010 было збіццё, выкраданне з бальніцы, турма, дамашні арышт. Але вы не з'ехалі з Беларусі. Чаму?**

– Бо не мог. Бо адказваў за людзей, якія ў мяне паверылі, пайшлі за мной. Як было пакінуць іх пад пераследам, пад арыштамі? Я і са Швецыі, дзе дапісваў раман, вярнуўся ў Беларусь пад падзеі леташняга жніўня. Бо не там, а тут усё і ўсе, што і каго люблю.

**– Ці ёсць палітыкі, якімі вы захапляецеся?**

– Афіцэр **Мікола Статкевіч**, пісьменнік **Павел Севярынец**, цяслер **Зміцер Дашкевіч**. Гэта людзі, гатовыя ахвяраваць сабой дзеля Беларусі.

### І яшчэ крыху пра жыццё

**– Вы заўсёды файна выглядаеце. Ведзяце здаровы лад жыцця і займаецеся спортам?**

– Якім спортам можна займацца ў 75? Шахматамі?.. Спортам не займаюся. Фізічна не магу ім займацца, бо ў 2010-м мной заняўся спецназ «Алмаз». І на ўсё астатняе жыццё мне стала не да спорту. Але форму фізічную, як магу, падтрымліваю. Без гэтага немагчыма па 14-16 гадзін на дзень пісаць.

**– А ўвогуле, наколькі для вас важны імідж, знешні выгляд?**

– Сам на гэта асаблівай увагі не звяртаю. Але звяртае Вольга, жонка. Вось я і выглядаю так, як яна хоча, каб я выглядаў. І яшчэ, дарэчы, пра Вольгу. Я ўжо казаў, што прысвячаў ёй вершы, паэмы. Але ўсе мае прысвячэнні нішто перад тым, што яна прысвяціла мне. Сваё жыццё.

**– Як адчуваеце ў свае 75? Як збіраецеся святкаваць такую значную дату?**

– Пачувацца можна было б і лепш, усё болей даюцца ў знакі падзеі 2010 года. Але дзякуй богу за тое, што даў дажыць да года 2020. Адчуў, убачыў, што жыве і будзе жыць Беларусь!

У часе арыштаў, здзекаў, катаванняў, турмаў, у якіх сядзяць тысячы невінных людзей, многіх з якіх я ведаю, не да свят з фанфарамі. І ўсё ж неяк адзначыць родныя і сябры мяне ўгаварылі. Калі паўстала пытанне, ваганняў не было. У Крэве. Пачытаць вершы, паспяваць песні. Яшчэ я папрасіў знаёмых акцёраў сыграць сцэну з нядаўна напісанай драматычнай паэмы «Ягайла» каля сцен Крэўскага замка. Але супраць ідэі паўстала крэўскае і смаргонскае начальства. Сам я дамаўляцца з імі не хадзіў, мае сябры хадзілі. Карацей, адзначыць 75-годдзе там, дзе я нарадзіўся, дзе ляжаць на могілках усе мае продкі, у месцы, пра якое пісаў і пішу амаль ва ўсіх сваіх, пачынаючы з першай, паэмах, аповесцях, раманах, магчымасці мне не далі.

### Кароткі бліц напрыканцы

**– Любімае жаночае імя?**

– Вольга.

**– Любімае месца на зямлі?**

– Крэва.

**– Любімыя колеры?**

– Белы і чырвоны.



Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Сябры з розных краін віншуюць паэта

### Паэт. Палітык. Беларус



Так склалася, што маё жыццё звязалася з Беларуссю, краінай, у якой правёў я сем гадоў – і якая ў жыцці маім шмат што значыць. Перш за ўсё дзякуючы тым цудоўным людзям, якіх там сустрэў, і адзін з якіх у гэтыя дні адзначае сваё 75-годдзе.

Уладзіміра Някляева я ведаю як выбітнага паэта, мужнага палітыка, закаханага мужа – і ўрэшце майго сябра, які стаў для мяне прыкладам сапраўднага беларуса.

Я дыпламат, а не літаратуразнаўца, і не мне прафесійна ацэньваць творчасць Някляева-паэта, празаіка, драматурга. Але я адчуваю, як знітаваныя ягоныя вершы, проза, драмы з усім тым, што ёсць Беларусь. Я чую ў ягоных тэкстах галасы продкаў, якім гукаюцца нашчадкі, непарыўна знітоўваецца былое і будучае. Так пісаць, каб не толькі беларус, але нават іншаземец гэта адчуў, прыкмета вялікага, сапраўднага таленту. І мне шкада было, калі, паступіўшыся творчасцю, Уладзімір Някляеў пайшоў у палітыку.

Я ведаю, што прыняў ён гэта рашэнне не праз жаданне заняць нейкую пасаду, займець уладу, а праз боль за Радзіму. Праз боль за лёс роднай мовы – і ён, паэт, паўстаў супраць яе знікнення, знішчэння. За гэты мужны ўчынак яму давялося заплаціць высокую цану: я быў адным з першых, хто ўбачыў яго ў крыві ў снежаньскую ноч 2010 года. А пасля я чуў, як ён спакойна, без ніякага гераізму і трагізму расказваў пра тую ноч у Стакгольме на ўручэнні прэстыжнай літаратурнай прэміі за кнігу «Лісты да волі», якую напісаў у турме.

Мая павага да Уладзіміра Някляева не абмяжоўваецца яго літаратурнай і палітычнай дзейнасцю. З ім пашчасціла мне бавіць час у розных сяброўскіх (і бываць у не надта сяброўскіх) кампаніях, і я не спыняўся захапляцца ягоным розумам, а таксама гумарам, які не пакідае яго нідзе і ніколі.

Дык будзьце вясёлы і здаровы, Уладзімір Пракопавіч! Пішыце і жывіце доўга, каб спраўдзілася пры вашым жыцці тая Беларусь, дзеля якой вы самаахвярна не шкадуеце сябе, пра якую вы марыце!

**Стэфан ЭРЫКСАН,**
**дыпламат, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь у 2005-2012 гадах.**

### Бунтоўныя воды



Чалавечы і творчы характар, сутнасць Уладзіміра Някляева я зразумеў, калі пабываў на яго радзіме. У Крэве, якое не толькі праз Крэўскую унію, але і праз творчасць Някляева добра ведаюць у Фінляндыі. Мы хадзілі па крэўскіх пагорках, сталі на Ярылавай гары, глядзелі з яе на велічныя руіны Крэўскага замка – і я адчуваў глыбінную, магутную сілу зямлі, на якой перапляталіся лёсы Беларусі, Літвы, Польшчы, шмат у чым вызначалася гісторыя Еўропы.

Някляеў – і паэт Крэва, Смаргоні, Беларусі – і паэт Еўропы. Ён даказаў гэта і напісанай у Фінляндыі драмай «Армагедон», паэмай «Ложак для пчалы», якая дыхае беларускім і фінскім эпасам, і выдыхнутай у Польшчы паэмай «Паланэз», і створанымі ў Швецыі драматычнымі паэмамі «Ягайла» і «Літвіны», – дай Бог кожнай еўрапейскай краіне мець такога паэта!

Пабываў Някляеў і на маёй малой радзіме. У Настала, дзе абодва мы прыйшлі да высновы, што беларусы і фіны вельмі падобныя. Побытам, народнай культурай, менталітэтам. І яшчэ дарогай, па якой ішлі мы да права быць суб'ектам гісторыі. Але ці не раней за нас зразумеў гэта Янка Купала, які, пабываўшы ў Фінляндыі, напісаў пра яе «бунтоўныя воды».

Кніга Някляева Punainen auringonlasku («Чырвоны захад»), якая выйшла ў Фінляндыі, сцвердзіла ў свядомасці фінаў вобраз мужнага, свабодалюбівага беларускага народа. І ў цяжкія для Някляева часы мы, фіны, заўсёды казалі, што Фінляндыя – другая ягоная Айчына, што ён можа разлічваць на яе, як на дом, дзе яго заўсёды чакаюць. Тое самае кажам яму і сёння, віншуючы яго з 75-годдзем! З юбілеем!

**Юка МАЛІНЕН,**
**паэт, перакладчык, віцэ-прэзідэнт Фінскага ПЭН-цэнтра.**



Пётр Дыко выйшаў з Маладзечанскага РАУС пасля 15 сутак арышту.

# «Замест падушкі – туфлі ці рулон туалетнай паперы». Пётр Дыко расказаў пра 15 сутак арышту

**Пётр Дыко – адзін з затрыманых 20 чэрвеня каля маладзечанскага каменя «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі».**

54-гадовага маладзечанца судзілі 23 чэрвеня праз відэасувязь. Паводле пастановы суда, Дыко парушыў Закон аб масавых мерапрыемствах, а менавіта парадак правядзення пікетавання. «Што выявілася ў тым, што ён у адпаведнасці з заклікам аб правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства, размешчанага 19.06.2021 года ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт у мэсенджары «Тэлеграма» на канале «Маладзечна для жыцця чат» прыняў удзел у сумеснай масавай прысутнасці грамадзян у загадзя вызначаным месцы – каля помніка «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Дыко паставілі ў віну, што каля помніка ён «з мэтай выказвання сваіх пратэсных грамадска-палітычных настрояў ускладаў кветкі да помніка, без адпаведнага дазволу Маладзечанскага райвыканкама».

Маладзечанец сваю віну не прызнаў цалкам.

Вінаватасць Дыко, паводле пастановы, пацвярджае ў тым ліку пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Суддзя **Алег Лагачоў** пастанавіў накласці на Пятра Дыко адміністрацыйнае спагнанне па частцы 1 артыкула 24.23 КаАП у выглядзе адміністрацыйнага арышту на 15 сутак.

Па гэтай жа справе асудзілі таксама **Жанну Пілючонак**. Ёй далі 25 сутак арышту, так што яна павінна выйсці на свабоду праз 10 дзён. Яшчэ дзвюх жанчын у межах гэтай справы адпусцілі з аддзялення міліцыі 20 чэрвеня – яны маці непаўнагадовых дзяцей.

## «Самае страшнае – адзінота»

Мы папрасілі Пятра падзяліцца тым, як для яго прайшлі гэтыя 15 сутак арышту:

– Каля помніка бачыў, як адна жанчына здымала, што адбываецца. Як толькі ўсклалі кветкі, прыехала міліцыя, сказалі, што мы павінны прайсці з імі, завезлі ў райаддзел. Пратакол павялі складаць у гадзін 7-8 вечара. На ноч завялі ў «абяз'яннік». Недзе ў шэсць раніцы перавялі ўжо ў ізалятар часовага ўтрымання.

Там была камера на шэсць чалавек, нідзе няма матрацаў, нічога пасцельнага. Клаўся на голыя дошкі. Пад галаву падкладаў туфлі. Пасля, як выдалі туалетную паперу, спаў на ёй, такі ролік зрабіў з паперы.

У першую сераду чакаў перадачу, але не атрымаў. Падумаў, ну дзіўна, можа, сын не паспеў скласці. Буду чакаць у суботу. Настроўся на суботу, але пасля мне далі зразумець, што нічога не атрымаю. Усё, што мне перадавалі родныя, выдалі толькі калі выходзіў з РАУС. Усе чатыры пакеты. Кожны з чатырох дзён, калі можна было прыносіць перадачы, сын нешта прыносіў.

Пасля, на шостыя суткі, перавялі ў камеру на два месцы. Пачаліся больш прахалодныя ночы, я прасіў даць мне што-небудзь цёплае, каб накрыцца, але нічога не дазвалялі. Засоўваў рукі праз пройму ў майку, каб падчас сну сагрэцца. Спіну накрываў анучай, што мыюць падлогу, каб было не так холадна. Так спаў. Не скажу, што моцна холадна было, але калі зябка і так прачынаешся ад таго, што на дошках спіш, а тут яшчэ і ад холаду.

Не мог пагаліцца, узяць зубную пасту са шчоткай. Тлумачылі тым, што сяджу адзін і магу здзейсніць суіцыд. У душы толькі халодная вада, цёплай не было. Прапаноўвалі ў душавую, але халоднай вадой я мыўся і ў камеры. Прагулачны дворык ёсць, але не хапае персаналу, каб выводзіць туды. Так што за 15 сутак ні разу не быў на прагулцы, ні разу ў душы.

З ежы давалі на сняданак біточак з кашай, у абед суп з парай бульбін і біточак з кашай, і на вячэру біточак. Я сябе настроіў, што больш нічога з ежы не будзе. Так што з маім целаскладам гэтага хапала.

Прасіў кніжку або газету – нічога не давалі. Самае цяжкае – калі застаешся ў гэтым памяшканні адзін, і са сваімі думкамі. Тым больш, не паспіш нармальна, і ноччу ўстаеш ногі размяць.

Успамінаў усе фразы па-англійску. Браў сваю судовую пастанову, чытаў па-руску і спрабаваў перакладаць на англійскую мову. Рабіў фізічныя практыкаванні, разбіваў комплекс на дзень. Мыў адзенне, сябе. Мог узяць якую тэму з гісторыі і пачаць разважаць. Напрыклад, чаму бальшавікі перамаглі ў тых умовах – пачынаеш успамінаць факты, аналізаваць, супастаўляць. Ці чаму распаўся СССР, ці Напалеон не змог перамагчы – каб заняць сябе развагамі.

Раніцай возяць цялежку з гарачай вадой, а ты разумееш, што табе нічога не будзе, толькі каша з біточкам. У мяне была двухлітровая бутэлька, наліць кіпень не было куды.

Адной ноччу чуў Жанну. Яна таксама прасіла пакласці што-небудзь пад галаву.

У камерах ёсць вентыляцыя. Калі награваецца памяшканне, уключалі, яна выдзімала паветра. У спёку вентыляцыю ўключалі часта.

Цікаўлюся футболам, прасіў, каб хоць вынік гульні сказалі, газету далі, але так і не атрымаў. Цэлы дзень уключанае радыё «Мінская хваля», так што некаторыя паведамленні пра футбол можна было пачуць. Радыё дапамагала – музыка адцягвала ад адзіноты.

Цяпер, у першую чаргу, хачу памыцца і пагаліцца.



Тэкст і фота – Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




Экспанаты выставы «Чамаданны настрой» Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

# Вараныя яйкі ў цягніках і гітара. Музей адкрыў выставу пра падарожжы і настальгію

**Вандраваць у розныя мясціны або перамясціцца ў Маладзечна 60–80-х гадоў – менавіта для тых, хто хацеў бы прыгод, падрыхтавалі выставу «Чамаданны настрой».**

У выставе аб'ядналі падарожжы, чамаданы і фотаздымкі. Аўтары паспрабавалі паказаць Маладзечна вачыма падарожніка розных гадоў.

Экспазіцыя працуе ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі. Выставу падрыхтавалі загадчыца аддзела навукова-даследчай і экспазіцыйна-выставачнай работы **Вольга Шылько**, навуковы супрацоўнік **Таццяна Беразавец** і старшы навуковы супрацоўнік **Іна Самовіч**. Таццяна Беразавец расказала пра тое, якія адкрыцці чакаюць наведнікаў.

### Што браў з сабой падарожнік

Экскурсія пачынаецца з экспанатаў, якія паказваюць, як падарожнік таго часу мог апранацца ў кепскае надвор'е. Гэта плашчы, парасоны, абутак. Разглядаць адзенне на фотаздымках – яшчэ адна магчымасць, якая падорыць шмат адкрыццяў.

У наступным блоку аўтары прыгадалі, якую ежу бралі падарожнікі з сабой у дарогу. Абавязкова – вараная курыца ў фользе, вараныя яйкі. Калі пасажыр ехаў цягніком, то заказваў чай у шклянцы з падшклянкам. Многія асацыююць такія падшклянкі з чыгункай, але яны з'явіліся нашмат раней. Калі прыносілі чай, то давалі цукар у фірменнай упакоўцы чыгункі. З сабой бралі пачак квадратнага печыва, напой «Бураціна».

А часам па цягніку хадзілі жанчыны з вагона-рэстарана з вазком і прадавалі з яго піва. Некаторыя маглі сабе гэта дазволіць, асабліва калі загадзя на пероне набывалі сушаную рыбку.

Яшчэ адна вітрына ўяўляе, як вандравалі камандзіраваныя. У мужчынскім камплекце – саквояж з мяккімі сценкамі, які дазваляў змясціць шмат рэчаў. Што ж камандзіраваны мог з сабой узяць? Кіпяцільнік, ніткі, наматаныя на паперу, з іголкай, электрабрытву са спецыяльным перахаднікам для разетак у цягніку.

Дамскі набор – з касметыкай і ўпрыгожаннямі, таму што ў камандзіроўцы жанчыне таксама трэба было добра выглядаць.

Наступны блок – пра вольны час у дарозе. Для баўлення часу бралі крыжаванкі, якія друкавалі ў газетах, шашкі, слухалі транзістар, чыталі кнігі, вязалі. І, канешне, фотаапарат. На выставе паказалі фотаапарат «Смена», занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса як самы масавы на планеце. Сакрэт поспеху ў тым, што ён быў зручны ў настройках.

Турыстычны блок – з гітарай, рукзаком, штармоўкай. Раней было прынята: калі прыедзеш у новае месца, купляеш паштоўку з відам горада і дасылаеш дадому. Пакуль прыехаў, ужо і паштоўка прыйшла. А часам падарожнік вярнуўся, і ўжо пасля прыходзіць паштоўка.

### Чамаданы

Галоўныя аксесуары выставы – гэта чамаданы. Наведнікі могуць заўважыць, як чамаданы мяняліся цягам розных гадоў, уявіць, як з імі падарожнічалі. Адзін з экспанатаў – чамадан 80-х гадоў, які закрываецца на засцежкі. Акантаваны пластмасай, каб не адбіваліся рагі. Для жорсткасці ў яго ўставілі па борціку металічны стрыжань. Унутры тагачасныя чамаданы абклейвалі тканінай або шпалерамі, а звонку абшывалі замяняльнікам скуры.

Адзін з самых старых – зроблены з фанеры ў 30-40-я гады 20 стагоддзя. Пры гэтым ён вельмі лёгкі. На тэрыторыі СССР чамаданы доўга не ўваходзілі ў моду, людзі карысталіся мяшкамі і баўламі. Былі асобныя майстэрні, але распаўсюдзіліся чамаданы пасля Другой сусветнай вайны. І то дзякуючы таму, што прывезлі трафейныя. Мясцовыя паглядзелі, што гэта зручна, і пасля наладзілі выпуск у Саюзе.

У 70-80-я гады было модна абклейваць чамаданы звонку ці знутры выявамі акцёраў або прыгожых дзяўчат з часопісаў.

Адзін з экспанатаў выставы – чамадан на колцах. Такія вынайшаў пілот, якому даводзілася часта карыстацца чамаданамі. Насіць у руках было нязручна, таму прымацаваў колцы. Калегі ацанілі ідэю і пачалі прасіць зрабіць такі ж і ім. Неўзабаве пілот адкрыў вытворчасць чамаданаў на колцах і за першы год зарабіў мільён долараў.

### Падарожжа па фотаздымках

**Яўген Стэльмах** адлічбаваў здымкі **Аляксея Фяцісава**, раздрукаваў у добрай якасці і перадаў у музей. Дзякуючы гэтаму на стэндах можна бачыць Маладзечна ў 60-80-я гады. На выставе толькі частка гэтых фотаздымкаў, затое можна пабачыць нечаканыя куткі горада і здагадвацца, што цяпер на гэтым месцы.

На адным са здымкаў 60-х – вуліца тады Рэвалюцыйная, цяпер Прытыцкага, яшчэ з брукаванкай. Тут відаць кінатэатр «Радзіма», кіёскі і мясцовыя жыхары на фоне савецкага аўтамабіля.

Ажыўленым цэнтрам горада ў той час заставалася плошча Свабоды. Там была аўтастанцыя, аптэка, рэстаран і Дом быту, у які трэба было запісвацца загадзя ў цырульню ці швейнае атэлье. Плошча Свабоды таксама была брукаваная, на ёй ставілі машыны.

Заўважны здымак з відам з парку на цяперашнюю Цэнтральную плошчу, тады плошчу Леніна. Дрэвы былі невысокія, так што фатограф мог з узвышша зняць плошчу. Ёсць здымак атракцыёна «Лодачкі» ў парку. А яшчэ – фота мастака Кастуся Харашэвіча на матацыкле з эцюднікам на багажніку. На здымку з дзвюма дзяўчатамі на вуліцы Маркава відаць Дом культуры будаўнікоў, цяпер у гэтым будынку месціцца «Батлейка».

У блоку фотаздымкаў 70-х гадоў ёсць карткі са спаборніцтваў па матакросе.

У 1988 годзе святкавалі 600-годдзе Маладзечна цягам двух дзён. Было шмат тэатралізацыі. Мерапрыемствы былі на плошчы Леніна і гарадскім стадыёне. 40-годдзе Перамогі святкавалі таксама на стадыёне. Да гэтага 9 мая так масава не святкавалася.

### Сучасныя падарожжы

Наступны блок – гэта фота Дажынак, якія значна перамянілі воблік горада. Фотаздымкі працэсу, як горад мяняўся падчас падрыхтоўкі, прапанаваў **Аляксей Платко**.

Яшчэ адна падборка – сувенірная прадукцыя Маладзечна, якая можа быць вельмі цікавая гасцям горада, у тым ліку замежнікам. А таксама крэатыўная карта Маладзечна, якую зрабілі мясцовыя актывісты.

На пляцоўцы размешчаная інтэрактыўная зона, у якой зручна будзе гуляць дзецям. Дадаткова музей распрацаваў квэст менавіта па гэтай выставе. Экспазіцыя працуе да 29 жніўня.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**



Фота afi.by

Іван Літвіновіч.



Фота pressball.by

Дзмітры Асанаў.




Фота sportmail.ru

Аляксандр Ляховіч.




Фота bfla.eu

Анастасія Рароўская.

# На алімпіяду ў Токіа паедуць спартсмены з Маладзечна, Вілейкі і Астраўца

**На Алімпійскія гульні ў Токіа паедуць чатыры спартсмены з нашага рэгіёна. «Рэгіянальная газета» расказвае пра атлетаў, якія будуць змагацца за медалі галоўнага спаборніцтва чатырохгоддзя.**

### Іван Літвіновіч

Нарадзіўся ў Вілейцы, пачаў займацца скачкамі на батуце там жа. Гімнасту 20 гадоў.

У 2018 годзе вілейчук удзельнічаў у Летніх юнацкіх Алімпійскіх гульнях у Аргенціне. Турнір скончыўся для Літвіновіча без узнагарод.

У 2019 годзе выйграў сярэбраны медаль на чэмпіянаце свету-2019.

**Выйграў медаль у індывідуальных скачках.**

### Дзмітры Асанаў

Дзмітры Асанаў з Маладзечна, яму 25 год. У дзяцінстве займаўся футболам і боксам, але з часам прыняў рашэнне цалкам засяродзіцца на боксе. Першым трэнерам стаў яго бацька **Сяргей Асанаў**.

У 2012 годзе Дзмітры дамогся першых сур'ёзных поспехаў у боксе. Спачатку ён стаў чэмпіёнам Беларусі сярод юніёраў, а пасля выйграў еўрапейскае першынство ў сваёй узроставай групе. У 2015 годзе ўпершыню стаў чэмпіёнам Беларусі сярод дарослых.

У 2015 годзе маладзечанец паўдзельнічаў у Еўрапейскіх гульнях у Баку. Удзельнічаў у іх у катэгорыі да 56 кілаграмаў, а ў фінале саступіў расіяніну. У тым жа годзе Асанаў баксіраваў на чэмпіянаце свету ў Катары і ўзяў там бронзавы медаль з кваліфікацыяй на алімпіяду ў Рыа. На Алімпійскіх гульнях-2016 дайшоў да другога раўнда.

**У 2019 годзе заваяваў залаты медаль на Еўрапейскіх гульнях у Мінску.**

### Анастасія Рароўская

Анастасія Рароўская родам з Астраўца. Цяпер спартсменцы 25 год. Яна займаецца спартыўнай хадзьбой на 20 кіламетраў.

**У 2020 годзе ўзяла бронзавыя медалі на 5 і 10 кіламетраў на чэмпіянаце Беларусі па лёгкай атлетыцы.**

У маі 2021 года Рароўская ўдзельнічала ў чэмпіянаце Еўропы ў складзе беларускай зборнай. Астраўчанка заняла толькі 13-е месца ў спартыўнай хадзьбе на 20 кіламетраў на еўрапершынстве. На сёлетнім чэмпіянаце Беларусі Рароўская ўзяла сярэбраны медаль па хадзьбе на 5 кіламетраў і бронзавы медаль па хадзьбе на 10 кіламетраў.

### Аляксандр Ляховіч

Нарадзіўся ў Варнянах у Астравецкім раёне. Яму 32 гады. Спецыялізуецца спартыўнай хадзьбой на 5, 10 і 20 кіламетраў.

**У 2015 годзе выканаў кваліфікацыйны нарматыў на Алімпійскія гульні-2016. Удзельнічаў у чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы-2015, аднак яго дыскваліфікавалі з-за трох папярэджанняў ад суддзяў.**

У 2014, 2015 і 2016 гадах станавіўся чэмпіёнам Беларусі ў спартыўнай хадзьбе ў памяшканні на 10 кіламетраў. У 2016 годзе стаў пераможцам Кубка Беларусі ў спартыўнай хадзьбе на 20 кіламетраў.

**У тым жа годзе на чэмпіянаце Беларусі атрымаў сярэбраны медаль у хадзьбе на 20 кіламетраў.**

У 2019 годзе ўдзельнічаў у чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы, які праходзіў у Катары. На ім Ляховіч заняў 40-е месца.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Вынікі футбольных матчаў камандаў рэгіёна

«**Маладзечна**». У 10-м туры чэмпіянату другой лігі ў Мінскім дывізіёне ў зоне «Поўнач» каманда «Маладзечна» перамагла «Беразіно» – **7:0**. **Сяргей Кошаль** на 16-й хвіліне прабіў вышэй за вароты з пенальці. На 21-й хвіліне **Артур Сарамаха** забівае першы гол у гульні, а праз некалькі хвілін гулец «Беразіно» **Дзмітры Тышкевіч** забівае аўтагол. У другім тайме галы забівалі двойчы **Раман Бурак**, **Сяргей Тарчыла**, **Дзмітры Сярогін**, **Яўген Марозаў**. «Маладзечна» займае першы радок у турнірнай табліцы.

«**Вілія**». У 10-м туры чэмпіянату другой лігі ў Мінскім дывізіёне ў зоне «Поўнач» вілейскія футбалісты прайгралі «Смалявічам» – **1:3**. У першым тайме па голе забілі смалявіцкія гульцы **Уладзіслаў Касцюкевіч** і **Ягор Бабіч**. У другой палове сустрэчы адзначыліся вілейчукі: **Максім Вітко** і аўтагол ад **Яўгена Вярбіцкага**. «Вілія» – на 8 з 10 радку турнірнай табліцы.

«**ФСК Ашмяны**». У 9-м туры чэмпіянату другой лігі ў Гродзенскім дывізіёне футбалісты прайгралі «Цэментніку» – **0:3**. Галы забівалі **Арцём Гузік**, двойчы **Яўген Васілеўскі**. «ФСК Ашмяны» займаюць перадапошняе месца ў турнірнай табліцы.

«**Астравец**». У 9-м туры чэмпіянату другой лігі ў Гродзенскім дывізіёне астравецкая каманда разграміла «Свіслач» – **10:0**. **Аляксей Хадневіч** забіў шэсць галоў, галамі адзначыліся **Дзмітры Купнеўскі**, **Аляксей Бялевіч**, **Ягор Кашко** і **Аліхан Фазылаў**. «Астравец» знаходзіцца на першым месцы ў турнірнай табліцы.

«**Смаргонь**». У 15-м туры вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі смаргонскія футбалісты згулялі ўнічыю з «Мінскам» – **2:2**. Лік у гульні адкрыў футбаліст «Мінска» **Дзмітры Алісейка**. У першым тайме смаргонцы выйшлі наперад, галамі адзначыліся **Бяніта Задзі** і аўтагол забіў **Салі Муніру**. Напрыканцы матча Муніру зраўняў лік у матчы. «Смаргонь» знаходзіцца на перадапошнім месцы ў турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## «Маладзечна» перамагае «Вілію» ў рэгіянальным дэрбі

1 ліпеня ў рамках чэмпіянату другой лігі «Маладзечна» згуляла з «Віліяй». Перамогу святкавалі маладзечанскія футбалісты.

У першым тайме матча каманды пакінулі гледачоў без рэалізаваных момантаў. **Артур Сарамаха** не змог забіць гол з пенальці – прабіў значна вышэй за вароты саперніка. Нагадаем, што Сарамаха з'яўляецца самым забіўным футбалістам маладзечанскай каманды ў гэтым сезоне. На яго рахунку 13 галоў пасля 8 гульняў.

У другім тайме адзначыліся два футбалісты «Маладзечна» і адзін вілейчук. На 51-й хвіліне лік у матчы адкрыў маладзечанскі гулец **Уладзіслаў Шумілаў**. Дарэчы, Шумілаў пачаў гульню з лаўкі запасных, а не ў старце.

Абаронца «Віліі» памыліўся, не змог своечасова выбіць мяч з варатарскай зоны. Бурак перахапіў мяч, аддаў перадачу на Сарамаху, які прабіў па варотах, але ў моманце вілейскую каманду выручыў варатар. Аднак ён адбіў мяч амаль пад ногі маладзечанскім футбалістам, а Шумілаў лёгка забіў першы гол у сустрэчы.

Другім мяч у матчы забіў **Сяргей Кошаль**. Гэта адбылося на 56-й хвіліне гульні. Момант атрымалася рэалізаваць, дзякуючы контратацы маладзечанцаў. Мяч хутка перавялі ад варотаў зялёна-белых да цэнтра поля, дзе Шумілаў зрабіў перадачу на Галюка. Галюк адправіў мяч навесам на Кошаля, а той забіў з лёту.

Напрыканцы сустрэчы вілейчукі ўсё-ткі забілі гол. На 83-й хвіліне абаронца вілейскай каманды выбівае мяч амаль да варотаў маладзечанцаў. Абаронцы «Маладзечна» не могуць адабраць мяч у сапернікаў. У выніку вілейскі футбаліст амаль з нулявога кута б'е па варотах, маладзечанскі галкіпер адбівае мяч у ногі **Віталя Максімовіча**. Максімовіч без асаблівых праблем паспеў апрацаваць мяч і забіць у пустыя вароты.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Вуліца, завулак, якія не маюць скразнога праходу, праезду.
3. Стаць, зрабіцца ўладальнікам чаго-небудзь.
4. Правільны чатырохграннік, кожная грань якога мае форму трохвугольніка.
9. Агародная расліна сямейства парасонавых, корань і лісце якой ужываюцца як прыправа да страў.
10. У геаграфіі – уяўная лінія, якая, праходзячы па паверхні Зямлі, злучае абодва полюсы і перасякае экватар пад прамым вуглом.
11. Паводле беларускай прымаўкі, калі яе прадаюць, то вельмі добра спяць.
12. Насякомае сямейства пчаліных з тоўстым, укрытым густымі валаскамі целам.
13. Кусок тканіны ці вязанага палатна, часцей квадратнай формы, які завязваецца на галаву, шыю ці накідваецца на плечы.
16. Від энергіі, што ствараецца бязладным рухам мікрачасцінак цела і праяўляецца ў награванні яго.
17. Заканамернае, рэгулярнае кола якіх-небудзь з'яў, дзеянняў, працэсаў.
21. Устаноўленая мера, устаноўленыя памеры.
22. Асвежаванае і выпатрашанае цела забітай жывёлы.
23. Гатаваць ежу сухім награваннем, на адкрытым агні, у духу або на патэльні.
24. Пэўная доля цэлага.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Слова, выраз, у якіх адкрыта не выказваецца думка таго, хто гаворыць, але яе можна зразумець.
5. Пылок кветак раслін, сабраны пчоламі, змочаны нектарам, пакладзены імі ў ячэйкі сотаў і заліты мёдам.
6. Шкілет галавы пазваночных і чалавека.
7. Сіплы гук, які чуецца пры цяжкім дыханні, здаўленай гаворцы.
8. Устройства ў саставе вылічальнай сістэмы, якое прызначанае для ўводу інфармацыі ў сістэму і вываду інфармацыі з яе.
13. Павойная расліна сямейства тутавых, некаторыя віды якой выкарыстоўваюцца ў піваварэнні.
14. Прыстасаванне для пераноскі грузаў або людзей.
15. Група або калектыў спевакоў, якія выконваюць разам вакальныя творы.
17. Адсутнасць шуму, гукаў; маўчанне.
18. Зялёныя водарасці, якія плаваюць густой масай у стаячай і мала праточнай вадзе.
19. Зацукраваны плод, зацукраваная скурка плода.
20. Спартыўная гульня з мячом і ракеткамі на пляцоўцы-корце з сеткай пасярэдзіне.
23. Ахаладжэнне арганізма чалавека, якое выклікае хваробу.
24. Дзень у парадкавым радзе іншых дзён гэтага месяца.
25. Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства, мыслення і спосабах уздзеяння на навакольны свет.

## Адказы на крыжаванку з №27

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Бранекамізэлька. 5. Крос. 8. Ушчыльнную. 11. Бяроза. 12. Молат. 13. Тэатр. 15. Вахта. 17. Тарка. 21. Казінец. 22. Таршэр. 23. Бяспека. 25. Тыпаж. 27. Муляж. 28. Маятнік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Бункер. 2. Компас. 3. Буфер. 4. Мітусня. 6. Казка. 7. Утульна. 9. Ушанаваць. 10. Бюракрат. 14. Участак. 16. Поўнач. 18. Бураўкін. 19. Тэкстуры. 20. Калібр. 24. Вясло. 26. Кааліцыя.

## ГАРАСКОП НА 9-15 ЛІПЕНЯ

**АВЕН.** У бліжэйшы час вас могуць чакаць не самыя прыемныя сюрпрызы ад блізкага чалавека. Цалкам верагодныя грашовыя паступленні, дзякуючы якім зможаце зрабіць буйную куплю.

**ЦЯЛЕЦ.** Трымайце напагатове паперу і ручку: у бліжэйшы час вас можа наведаць некалькі добрых ідэй. Дзеці цяпер прынясуць толькі радасныя клопаты, чаго не скажаш аб калегах.

**БЛІЗНЯТЫ.** На некаторы час мінімізуйце стасункі, каб не нарабіць праблем. На працы магчымыя цікавыя праекты. Аднак прыйдзецца пастарацца, каб іх даручылі менавіта вам.

**РАК.** Перыяд добры для заняткаў спортам, асабліва для пачаткоўцаў. Людзям старэйшага пакалення трэба быць асцярожнымі на вуліцы. Займайцеся выключна прыемнымі клопатамі, каб стварыць сабе настрой.

**ЛЕЎ.** Калі ў вас засталіся незавершанымі якія-небудзь справы, тэрмінова гэта выпраўляйце. Інакш яны як снежны ком будуць назапашвацца. Трымайцеся ў баку ад сварак. Старайцеся менш грошай траціць на цацанкі.

**ДЗЕВА.** Рашэнне фінансавых пытанняў даручыце больш кампетэнтнаму чалавеку. Дома магчымыя бытавыя непрыемнасці. Самі вы з імі не справіцеся, але дапаможа сябар.

**ШАЛІ.** Расстаўце прыярытэты, каб завяршыць усе справы да канца гэтага перыяду. Гэтыя дні – лепшы час для таго, каб папрасіць прабачэння ў чалавека, якога вы незаслужана пакрыўдзілі. Выхадныя правядзіце так, як вам хочацца. Вы наберацеся энергіі на некалькі тыдняў наперад.

**СКАРПІЁН.** Скарпіёнаў, якіх у апошні час праследавала чорная паласа, можна ўзрадаваць: яна скончыцца! Больш часу надавайце адпачынку і забавам, праца пачакае. З сябрамі цяпер сустракайцеся як мага часцей. Магчыма, вас чакаюць і новыя знаёмствы.

**СТРАЛЕЦ.** Падзея, якой пабойваліся апошні час, усё ж адбудзецца. Пастаўцеся да гэтага максімальна спакойна. На працы будзе занадта шмат спраў: на дамашнія клопаты сіл не застанецца. Папрасіце дамачадцаў дапамагчы вам, яны не адмовяць.

**КАЗЯРОГ.** Не бойцеся перакласці частку клопатаў на чужыя плечы. Вам цяпер неабходны адпачынак. Пачынайце планаваць адпачынак, калі яшчэ гэтага не зрабілі. Ён стане асаблівым для вас.

**ВАДАЛЕЙ.** Адзіныя праблемы, якія могуць паўстаць у вас, – бытавыя. У астатнім вас можна будзе назваць больш чым шчаслівым чалавекам. Дарыце добры настрой навакольным, падтрымайце тых, хто цяпер у бядзе.

**РЫБЫ.** Перыяд добры для назапашванняў, а вось з выдаткамі пакуль лепш пачакаць. Выдатныя выхадныя чакаюць вас! Адпачніце так, каб набрацца сіл па максімуме. Непажадана працаваць з зямлёй: дачныя працы даручыце каму-небудзь іншаму. Кажыце як мага больш кампліментаў навакольным.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 9 | | | 1 | |
| | | | 3 | | 2 | 7 | 6 | |
| 2 | | 6 | 7 | 4 | | | | 3 |
| | 2 | 5 | | 8 | | | | |
| 6 | | 1 | | | | | | |
| 9 | 4 | 8 | 5 | | | | | |
| 1 | | 3 | | 7 | | | | |
| | 8 | 4 | | | | 3 | 2 | |
| 5 | | | | | 8 | | 4 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram! RG_RHBY


## На Ашмяншчыне ўвялі званне «Ганаровы грамадзянін Ашмянскага раёна»

**Ад 2 ліпеня на Ашмяншчыне ўвялі званне «Ганаровы грамадзянін Ашмянскага раёна».**



Фота planetabelarus.by.

Дагэтуль на Ашмяншчыне было толькі званне «Ганаровы грамадзянін горада Ашмяны». Яно прысвоенае 23 чалавекам. Самы вядомы з іх – **Андрэй Барбашынскі**, удзельнік Алімпіяды ў складзе зборнай СССР па гандболе.

Падставамі для прысваення звання з'яўляюцца:

- асаблівыя заслугі ў сацыяльна-эканамічным развіцці Ашмянскага раёна, высокія дасягненні ў вытворчай, навукова-даследчай, грамадска-культурнай і спартыўнай дзейнасці;
- асаблівыя заслугі пры абароне і вызваленні Ашмянскага раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны;
- адвага і мужнасць, праяўленыя ў надзвычайных сітуацыях, пры выкананні вайсковага абавязку, забеспячэнні бяспекі, законнасці і правапарадку;
- іншыя заслугі і (або) дасягненні, якія атрымалі шырокае грамадскае прызнанне.

**Аддзел інфармацыі.**



## Чытайце праз тыдзень:

● **У нашым рэгіёне з'явіўся музей выцінанкі. Што гэта, хто гаспадар і як туды трапіць?**

## 10 ліпеня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 5-6 м/с




Усход 4.52
Захад 21.44
Даўжыня дня 16.52

Усход 4.36
Захад 22.36
Маладзік

Паводле rp5.by.

## Падпіска на «Рэгіянальную газету» не спыняецца!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.50 / 4.11 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання);
- на квартал – 16.50 / 12.33.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 19 / 17.33;
- на квартал – 57 / 51.99.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная) 632122 (ведамасная падпіска).*

● АПЫТАННЕ НА БУДСЛАЎСКІМ ФЭСЦЕ

## Як вы даведаліся пра пажар, які здарыўся ў будслаўскім касцёле 11 мая?



**Вольга Усовіч, фармацэўт, Мядзел:**
– Мой сябар жыве ў Будславе, мы з ім разам працуем у Мядзеле. Ён прыйшоў і сказаў мне ў той жа дзень. З'явілася пытанне «за што?». Я праваслаўная. Але паколькі быў пажар, далучылася, каб прынесці сваю ахвяру, дапамагчы касцёлу.



**Наталля Сідлярэвіч, педагог, Паставы:**
– Праз тэлеграм-канал каталіцкага часопіса і падчас імшы. Не скажу, што было страшна, але непрыемна. Спатрэбяцца сур'ёзныя грашовыя выдаткі, каб аднавіць. Мы збіраліся неўзабаве наведаць гэты храм, а тут такое здарылася. У той жа час яшчэ больш захацелася сюды прыехаць.



**Вадзім Плюто, майстар, Маладзечна:**
– Я адсюль родам. У доме каля касцёла жывуць сваякі, вось яны і паведамілі каля дзевяці раніцы. Пасля ўжо ў навінах убачыў. Думаю, можа, фэст адменяць.



**Сястра Валянціна, дачка міласэрнасці святога Вінцэнта дэ Поля, Мінск:**
– Расказалі нашы айцы-кармеліты ў той дзень. Спачатку не перажывала. Пасля асэнсавала, што гэта ж загараўся нацыянальны санктуарый і ва ўсім свеце адбываюцца дзіўныя рэчы. Пачала амальваць.



**Валянцін Кудрык, прадпрымальнік, Гродна:**
– У мяне сын жыве ў Польшчы, у Лодзі. Першы ён патэлефанаваў, расказаў, скінуў навіну. Якія гэта можа выклікаць эмоцыі ў чалавека, які больш за 20 год ездзіць на пілігрымкі? Смутак.



**Вольга Хілько, афтальмолаг, Мінск:**
– Праз каталіцкі часопіс, навінныя каналы, суполкі ў вайберы. Ксяндзы пісалі інфармацыю, расказвалі, як валанцёры працавалі, заклікалі да малітвы. Адчула жаль і страх. Падумала, гэта знак да навяртання, што Маці Божая нагадала пра сябе, каб людзі адкрылі сэрцы і ўбачылі дабро.



**Яўген Макарэвіч, пенсіянер, Крывічы:**
– У тую раніцу быў у праваслаўнай царкве ў Крывічах, там людзі сказалі. Жонка, як даведалася, адразу заплакала. У той жа дзень прыехалі з ёй сюды. Тут ужо шмат было людзей, якія дапамагалі. Кожны год сюды прыязджаем.

**Аддзел інфармацыі.**


Падрабязней пра фэст у Будславе чытайце на старонцы 5.



Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1367) 9.07.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1144. Падпісана ў друк у 9.00 8.07.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.